


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

23 снежня 2016 года №52 (1130)


*Усіх чытачоў, якія адзначаюць Каляды 25 снежня, калектыў "Рэгіянальнай газеты" віншуе са святам! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, шмат яркіх і радасных дзён! Шчаслівых святаў!*





# Новы галоўны архітэктар Вілейкі:

## Хочацца, каб кожны, самы далёкі, куток быў даведзены да ладу

старонка 2

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.





# У Ільі адзначылі юбілей Максіма Багдановіча

ВІЛЕЙКА

Вучні і настаўнікі Ільянскай сярэдняй школа імя Адама Грымаца адзначылі юбілей паэта, публіцыста, перакладчыка **Максіма Багдановіча**.

На першым паверсе школы арганізавалі выставу "Нязгасная зорка Максіма". У музеі "Вілейшчына літаратурная" вучні афармілі выставу кніг Багдановіча.

У актавай зале школы адбылася літаратурная гасцёўня "Свяці, зорка, свяці", прысвечаная слаўнай даце. Удзельнічалі вучні другіх-шостых класаў.

У час прэзентацыі расказалі пра жыццёвы і творчы шлях Максіма Багдановіча. У выкананні "Песняроў" прагучалі песні "Зорка Венера", "Вераніка", "Слуцкія ткачыхі", "Па-над белым пухам вішняў" на словы паэта.

Узнёсла і з лёгкім хваляваннем **Ксенія Шалуха, Максім Ярашонак, Надзея Пінчук Кацярына Пятрова, Вікторыя Ляшкевіч, Віялета Пятрова, Вераніка Нікалаева, Юлія Нікалаева, Ксенія Маскаленка** прачыталі вершы Максіма Багдановіча.

Вучаніца 6 класа Вераніка Нікалаева правяла віктарыну "Па сцежках Багдановіча". Пераможцам **Мікіту Амілаўскаму і Максіму Ярашонку**, вучням 4 класа, падарылі паштоўкі "Гавары па-беларуску".

Для вучняў 5-11 класаў было іншае мерапрыемства – літаратурна-музычная кампазіцыя "І зорка гарыць, і не гасне вянок".

Пачалі вершам "...Пакутай спадкаемнаю запальваю свячу". Яго прачытаў вучань 9 класа **Ілья Зюзюн**. Затым ён запаліў свечку, якая на працягу ўсяго мерапрыемства нагадвала прысутным аб нязгаснай зорцы паэта.

Пад мелодыі песень на словы Багдановіча па чарзе на сцэну выходзілі вучні 7-9 класаў і расказвалі пра жыццёвы і творчы шлях паэта, трагічны лёс яго сям'і, адчайнае каханне Максіма.

Творы паэта і пра паэта чыталі **Ульяна Вярбіцкая, Юлія Усціновіч, Артур Забаронак, Лізавета Барташэвіч**.

Гэтыя мерапрыемствы дапамаглі вучням яшчэ усвядоміць значнасць асобы Багдановіча для беларускай зямлі.

**Валянціна ЯРАШОНАК, кіраўнік музея "Вілейшчына літаратурная" Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца.**

# Галоўны архітэктар: ведаў толькі тое, што Вілейка ёсць на карце

ВІЛЕЙКА

**Ад 13 снежня ў Вілейскім райвыканкаме пачаў працаваць новы архітэктар – Дзмітры Гарланаў.**



**Даведка "РГ". Дзмітры Гарланаў** нарадзіўся ў Бабруйску ў 1991 годзе. У Вілейку прыехаў у 2014 пасля БНТУ па размеркаванні як малады спецыяліст-архітэктар. Працаваў галоўным спецыялістам у аддзеле архітэктуры Вілейскага райвыканкама. З 13 снежня 2016 года – галоўны архітэктар Вілейскага раёна.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**У час працы галоўным спецыялістам у аддзеле архітэктуры Дзмітры Гарланаў удзельнічаў у распрацоўцы праекта скейт-парку ў Вілейцы.**

На інтэрв'ю Дзмітры пагадзіўся не вельмі ахвотна: маўляў, інтэрв'ю варта браць па факце нейкіх спраў. А ў яго пакуль быццам бы і няма чым пахваліцца. Таму сённяшні матэрыял – гэта пакуль проста знаёмства з новым галоўным архітэктарам Вілейкі.

**– Чаму ў свой час вы абралі архітэктуру? Ці былі нейкія іншыя варыянты будучай прафесіі?**

– З дзяцінства ў родным Бабруйску я займаўся выяўленчым мастацтвам у гуртку, ездзіў на пленэры. Таму вырашыў і прафесію сваю звязаць з мастацтвам. Абіраў паміж дызайнерам і архітэктарам.

**– Чаму ж архітэктура перамагла?**

– Архітэктар, на маю думку, больш мужчынская і больш шырокая прафесія, чым дызайнер. Тым больш мама ў свой час скончыла той жа БНТУ (БПІ ў мінулым) па спецыяльнасці "архітэктура" і амаль усё жыццё працавала архітэктарам у праектных бюро. Цяпер яна на пенсіі.

**– Вы займаліся маляваннем. Можа, мастак больш творчая прафесія, чым архітэктар?**

– Мабыць, і так, але ж і архітэктар – прафесія творчая. Гэта тое ж самае выяўленчае мастацтва, толькі ў гарадскім або прыродным асяроддзі.

**– Што стрымлівае архітэктара ва ўвасабленні сваіх ідэй? Можа, ландшафт ці іншыя будынкі побач?**

– Што да галоўнага архітэктара, то гэта ўсё ж чыноўнік. Таму тут творчасцю перашкаджае займацца бясконцая праца з паперамі. А наваколлі асяроддзе і іншыя будынкі дапамагаюць ствараць штосьці ўнікальнае, што можа існаваць толькі ў гэтым асяроддзі.

**– Якім уяўлялі сваю будучыню ў часы студэнцтва?**

– Як большасць маіх аднакурснікаў, хацеў застацца ў сталіцы. Многія з іх, дарэчы, і засталіся, некаторыя з'ехалі ў родныя гарады, а я вось апынуўся ў Вілейцы.

**– Што-небудзь пра Вілейку чулі раней?**

– Толькі тое, што такі горад ёсць на карце. Прыкладна ўяўляў, якая Вілейка па колькасці жыхароў і па плошчы ў рамках агульнай адукацыі, але дакладна – не. А вось з Маладзечнам знаёмы доўгі час, не адзін раз бываў там.

**– Сваю першую сустрэчу з горадам памятаеце?**

– Так. У першы раз я выйшаў з маршруткі на цэнтральнай плошчы. Прыемна ўразілі яе памеры, агульнае добраўпарадкаванне, гарманічнасць асобных элементаў, а таксама суседства царквы і касцёла.

**– Па вашым праекце зрабілі велапаркоўку на ўпадабанай вамі плошчы і ў распрацоўцы праекта скейт-парку вы ўдзельнічалі. А самі захапляецеся роварам і скейтам?**

– Не, ні тым, ні другім. Канешне, у дзяцінстве вельмі любіў ровар, але цяпер для мяне гэта не самы зручны транспартны сродак. Калі распрацоўваў велапаркоўку, карыстаўся даследчымі працамі галандскай суполкі. А скейт-парк гэта ж не толькі мая ідэя. Тут у многім дапамагла выпадковасць: першапачаткова па дапамогу да мяне звярнулася **Вольга Шляпо**, намеснік дырэктара Палаца культуры. Яна ж была галоўным арганізатарам і каардынатарам фестывалю, у рамках якога вялося будаўніцтва пляцоўкі. А каб ёй дапамагчы, я прапанаваў у сацыяльных сетках прыняць удзел у праекце. Адгукнуліся некалькі чалавек, сярод якіх былі архітэктар з БНТУ Яна і скейтар Яўген.

**– Два гады вы працавалі пад кіраўніцтвам Галіны Кажарновіч. Цяпер самі сталі кіраўніком. Для вас прынцыпова, хто павінны кіраваць: мужчына ці жанчына?**

– Абсалютна не. Паспяховае кіраўніцтва не залежыць ад полу. Ды і як можна казаць, што жанчына-кіраўнік – гэта кепска, калі ў мяне перад вачыма быў прыклад **Галіны Кажарновіч**. 30 гадоў яна кіравала такой складанай сферай. Мяняўся час, мяняліся законы. А яна выстаяла і шмат зрабіла для горада. Да таго ж, на маю думку, у некаторых момантах жанчына-архітэктар можа справіцца лепш. Напрыклад, яна можа лепш зарыентавацца ў колерах, у малых архітэктурных формах, ландшафтных кампазіцыях. Ды і ўвогуле, жаночая мудрасць часам перамагае над амбіцыямі.

**– Чым архітэктура Вілейкі можа ганарыцца?**

– Сярод невялікіх гарадоў Вілейка захапляе. Тут шмат увагі надаецца ландшафтным і дэкаратыўным кампазіцыям, малым архітэктурным формам. Тут кожны год з'яўляецца нешта новае: будуюцца якасныя спартыўныя і дзіцячыя пляцоўкі, аднаўляюцца будынкі з выкарыстаннем актуальных матэрыялаў, асвойваюцца тэрыторыі для стварэння новых раёнаў прыватнай ці шматпаверховай забудовы.

**– А чаго, на вашу думку, не хапае архітэктуры Вілейкі?**

– Хочацца зрабіць больш гістарычных акцэнтаў. У кожнага немалагога горада ёсць багатая ўласная гісторыя, а ў Вілейкі яе больш за 500 гадоў. І паўсюднае сучаснае добраўпарадкаванне – гэта не лепшае выйсце, а наадварот, шлях да незваротнага знішчэння спадчыны. Можна ж паводзіць старыя дакументы перад кожнай рэканструкцыяй, дамовіцца і зрабіць цалкам гістарычныя вуліцы, а недзе, можа, і брукаванку аднавіць. Больш увагі надаваць вялікім пляцоўкам, і ў той жа час сачыць, каб кожны, самы далёкі ад цэнтра, куток быў даведзены да ладу.

**– Ці ёсць стыль у архітэктуры, які найбольш блізкі вам?**

– Стыль урбанізм. Гэта ўключэнне ў гарадскія краявіды кавалачкаў дзікай прыроды. Але гэты стыль больш падыходзіць для мегаполісаў. Для маленькай Вілейкі, якая, па сутнасці, знаходзіцца на ўлонні прыроды, гэты стыль не зусім актуальны. Лепш гарманічна спалучаць паміж сабой тое, што ўжо існуе, і тое, што будуецца. Гэта датычыцца і прыроднага багацця.

**– Вы падзяляеце думку вілейскай моладзі пра тое, што ў Вілейцы няма куды схадзіць маладым людзям.**

– У нейкай ступені так. Але будаўніцтва кафэ, піцэрый – гэта прыватныя інвестыцыі. І тут не заўсёды ў людзей, якія бяруцца за гэту справу, усё атрымліваецца. Здараецца, што такія месцы зачыняюцца з-за нерэнтабельнасці. Тое ж кафэ, напрыклад, запатрабаванае толькі ў суботу і нядзелю. А ў астатнія дні? Вельмі хутка адчыняць кафэ ў Паўночным мікраёне. Гэта будзе месца для сямейнага адпачынку, можна будзе прыходзіць з дзецьмі. Ад таго, ці будзе яно неабходнае людзям, залежыць лёс кафэ.

**– Ці хапае галоўнаму архітэктару часу на асабістыя справы і захапленні?**

– Шмат залежыць ад таго, як глядзець на працу: як на "завал" ці як на захапленне. У мяне пакуль няма ўласных дзяцей, але ёсць прыклад калег, якія, маючы сем'і, на ўсё знаходзяць час. Трэба правільна планаваць свой час, і тады ўсё будзе ў парадку.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



# Дзед Мароз:

## “Новы год адчуваецца, калі на вуліцах падыходзяць бабулькі і просяць загадаць жаданне”

МАЛАДЗЕЧНА

**Для малых дзяцей Новы год – гэта казачны час, калі дораць падарункі, загадваюць запаветныя жаданні.**



liverpoolecho.co.uk

Дзед Мароз Міхаіл адзначае, што самае галоўнае для яго – гэта падарыць святочны настрой не толькі дзецям, але і дарослым. Грошы стаяць на другім плане.

А для спецыялістаў, якія працуюць на святы, спосаб скалаціць капітал за малы час альбо нешта іншае.

Каб высветліць гэта, мы пастараліся зазірнуць не толькі ў святочны кашалёк Дзеда Мароза Міхаіла, але і ў яго думкі.

– Сёлета адчуваецца, што крызіс прайшоўся па кішэнях беларусаў, – адзначае Дзед Мароз. – Калі летась 24 снежня былі замоўленыя ўсе дні да Новага года і на само свята, цяпер застаўся час і на 30, і на 31 снежня. Многія тэлефануюць, пытаюцца пра цану, а вось рэальных заказаў мала.

### Няма снегу – і Дзед Мароз нікому не трэба

Праблема і ў тым, што многія спецыялісты працуюць нелегальна, таму і цана ў іх меншая. Дзед Мароз Міхаіл не можа сабе гэтага дазволіць – неабходныя грошы на падаткі. Выклік яго на свята каштуе 25 рублёў, у святочную ноч – у два разы даражэй.

– Многае залежыць і ад снегу, – дзеліцца досведам мужчына. – Няма яго, няма і святочнага настрою, таму і Дзед Мароз непатрэбны.

Святочная праграма Дзеда Мароза доўжыцца 15-20 хвілін. Яна ўключае песні, карагод, танцы, сёлета дадаліся два фокусы.

> **– Летась за навагоднія святы можна было зарабіць у сярэднім 3-4 мільёны да дэнамінацыі, – расказвае святочны герой. – Аднак варта адкінуць ад гэтай сумы падаткі.**

Штогод да зімовага ўбору варта набыць нешта новае, сёлета парык пацягнуў мільён, затое глядзіцца вельмі натуральна.

Як прызнаецца мужчына, для яго быць Дзедам Марозам – гэта не праца, а стан душы, калі хочацца дарыць святочны настрой, выклікаць усмешку ў людзей.

### Штогод з новай Снягурачкай

– Атрымліваецца так: штогод шукаю новую Снягурачку, – расказвае мужчына. – Адмаўляю дзяўчатам, якія пачынаюць размову з пытання, а колькі я зараблю. Калі для чалавека ў святочныя дні самае галоўнае – грошы, то і настрой будзе адпаведны. Мне трэба памочніца, якая будзе дарыць шчасце людзям, а не падлічваць у галаве свой прыбытак ад выступлення.

Дзед Мароз узгадвае, што напярэдадні свята бываюць вельмі смешныя званкі.

– Часам пытаюцца, ці п’е Дзед Мароз, – узгадвае спецыяліст. – Не хлушу – магу выпіць, аднак трэба ведаць дзе, калі, з кім і колькі. Аказваецца, людзі ў свой час апякліся: прыйшоў Дзед Мароз са Снягурачкай, пакуль яна вадзіла карагоды, дарыла падарункі, Дзед Мароз нападпітку прысеў на канапу і ледзьве не захроп. Свята было сапсаванае.

### Вы мужчына ці жанчына?

Часта пытаюцца, Дзед Мароз мужчына ці жанчына. Пасля высвятляецца, што летась дзіця віншавалі дзве жанчыны: адна ў вобразе Дзеда Мароза, другая – Снягурачкі. Снягурачка завіхалася каля дзіцяці, Дзед Мароз і слова не сказаў, толькі падарунак уручыў. Але ж дзіця не падманеш, пасля ў бацькоў спыталася, а чаму Дзед Мароз жанчына.

Сам спецыяліст прызнаецца, свята пасапраўднаму адчуваецца, калі ідзеш па горадзе, а табе наўздагон сігналяць машыны, дзеці з вокнаў крычаць “Дзед Мароз пайшоў!”

– Летась іду па горадзе, падлятае хлопчык гадоў 10-11 і дзякуе Дзеду Марозу за падарунак, абяцаў, што і налета будзе пісаць, – з цеплынёй узгадвае мужчына. – Аднак самае запамінальнае, калі падыходзяць бабулькі і просяць патрымацца за посах і загадаць жаданне. Што б там ні гаварылі, а ў цуды вераць людзі ўсіх узростаў.

Сам Дзед Мароз на Новы год будзе прасіць, каб не было горш, чым сёлета.

Галіна СУДНІКОВІЧ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.12 руб. | 22.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9548 | **1,9577** |
| Еўра | 2,0817 | **2,0372** |
| Злоты, 10 | 4,6775 | **4,6428** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2159 | **3,2040** |
| Грыўня, 100 | 7,4200 | **7,4638** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 14.12 і 21.12** | | |
| Еўра | 2.0600 /2.0850 | **2.0300/2.0500** |
| Долар ЗША | 1.9450 /1.9600 | **1.9550/1.9780** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.12 | | 21.12 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 32 600 | 3,26 | 32 600 | 3,26 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Алей “Фермер”, 1 л | 22 000 | 2,20 | 22 000 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 18 500 | 1,85 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 7 000 | 0,70 |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | 6,49 | 65 000 | 6,50 |
| Капуста, 1 кг | 2 900 | 0,29 | 3 000 | 0,30 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 5 000 | 0,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 12 900 | 1,29 | 16 900 | 1,69 |
| Лімоны, 1 кг | 29 500 | 29,5 | 29 500 | 2,95 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 22 500 | 2,25 | 26 900 | 2,69 |
| Гранаты, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 34 500 | 3,45 |
| Ківі, 1 кг | 28 500 | 2,85 | 29 900 | 2,99 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 27 900 | 2,79 | 39 000 | 3,90 |
| Агуркі, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 39 000 | 3,90 |
| Перац, 1 кг | 44 900 | 4,49 | 44 500 | 4,45 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 29 900 | 2,99 |
| Вінаград, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 39 900 | 3,99 |
| Бананы, 1 кг | 18 500 | 1,85 | 19 000 | 1,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | 1,40 | 14 900 | 1,49 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Праўленне ААТ “ААБ Беларусбанк” узначаліў былы віляйчанін Аляксандр Паліўка

ВІЛЕЙКА

Пра назначэнне гаворыцца ў прэс-рэлізе банка.

Ранейшы старшыня праўлення **Сяргей Пісарык** 19.12.2016 вызвалены рашэннем Наглядальнага савета ААТ “ААБ Беларусбанк” ад займаемай пасады па ўзгадненні бакоў.

Аляксандр Паліўка пачынаў сваю службовую кар’еру у Вілейцы ў 1980-х гадах.

Аляксандр Паліўка нарадзіўся ў 1961 годзе. На кіруючых пасадах на ўстановах “Беларусбанка” ад 1995 года. Ад 05.04.2011 года – намеснік старшыні праўлення банка.

> **У Вілейцы яшчэ яго памятаюць як дзіцячага трэнера па каратэ.**

Аддзел інфармацыі.

## Пачнуць працаваць ёлачныя кірмашы

ВІЛЕЙКА

Ад 22 снежня запрацавалі ёлачныя кірмашы ў Вілейцы.

Святочныя дрэвы можна будзе набыць на цэнтральнай плошчы, у раёне вуліцы Незалежнасці, а таксама ў лясніцтвах Вілейскага раёна.

Кошт елкі будзе залежаць ад яе вышыні і складзе ад сямі да адзінаццаці рублёў. Навагоднія дрэвы ў гаршку прапануюць за 9 рублёў.

Навагодні букет, які ўяўляе сабой некалькі прыгожа складзеных галінак з шышкамі, будуць прадаваць за два рублі.

У Вілейскім раёне будуць праводзіцца рэйды па выяўленні правапарушальнікаў, якія незаконна ссякаюць елкі. Штраф за іх знішчэнне складзе ад 5 да 50 базавых велічынь.

Пра гэта расказала намеснік дырэктара па ідэалогіі Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяна Аніщчык.**

Аксана ЯРАШОНАК.





## У Валожыне “Фольксваген” наехаў на хлопчыка. Кіроўцу шукаюць

ВАЛОЖЫН

У Валожыне 19 снежня каля 17:20 кіроўца на аўтамабілі “Фольксваген-Пасат”, наехаў на 10-гадовага хлопчыка. Той пераходзіў праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

Пасля чаго кіроўца ў парушэнне правілаў дарожнага руху месца ДТЗ пакінуў, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці. Хлопчык з траўмай нагі дастаўлены ў бальніцу. Асобу кіроўцы ўстанаўліваюць.

Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што ад 19 снежня да 8 студзеня ў Мінскай вобласці праводзяць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў “Бяспечныя канікулы”. Ён накіраваны на папярэджанне ДТЗ з непаўналетнімі удзельнікамі дарожнага руху.

**Аддзел інфармацыі.**

## ДАІ шукае сведкаў і відавочцаў здарэння ў Алёхнавічах

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета 26 лістапада ў 19:30 адбылося дарожна-транспартнае здарэнне ў Алёхнавічах.

Кіроўца аўтамабіля “Фольксваген-Гольф”, рухаючыся па вуліцы Садовай у накірунку вуліцы Радашкавіцкай, недалёка ад дома №35 наехаў на пешахода, які знаходзіўся на праезнай частцы.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС. Адрас: вуліца Тамары Дудко, 1-18 ці па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102.**

**Дзяніс КАРАЛЬКЕВІЧ, інспектар ДАІ Маладзечанскага РАУС**

## Здарэнне ў Ілы: пакуль гаспадар быў у бальніцы, згарэў яго дом

ВІЛЕЙКА

Раніцай 15 снежня супрацоўнікам вілейскага аддзела МНС паведамілі пра пажар у жылым драўляным доме ў Ілы.

Першымі на месца здарэння прыехалі ільянскія выратавальнікі. Яны ўбачылі, што вокны і дзверы ў хаце зачыненыя, у адным месцы прагарэла сцяна.

Калі пажарныя зайшлі ў хату, усё было ў дыме.

Пажар патушылі. Згарэлі кухня, спальня і прыхожая.

У час пажару дома нікога не было. Гаспадар ляжыць у бальніцы. Па словах суседзяў, вечарам перад здарэннем сын гаспадара, школьнік, прыходзіў прапаліць печку.

Пра гэта расказалі ў вілейскім аддзеле МНС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Арэхаўцы на Смаргоншчыне згарэла сена. Магчымая прычына – падпал

СМАРГОНЬ

Пра пажар паведамілі 14 снежня ў 5:10.

У вёсцы Арэхаўка Смаргонскага раёна гарэла павець для сена ў двары прыватнага дома. У выніку знішчаныя павець і тры кубаметры сена.

Прычыну высвятляюць. Адна з версій – падпал.

Міліцыя ўстанаўлівае асобу вінаватага.

**Паводле сайта МНС.**

## Быў у гасцях і згарэў: пажар у Смаргонскім раёне

СМАРГОНЬ

Увечары 14 снежня здарыўся пажар у вёсцы Каравай на Смаргоншчыне.

Гарэў жылы дом. У выніку знішчаны пасцельныя прыналежнасці. Загінуў мужчына 1973 года нараджэння, які быў у гэтым доме ў гасцях. Магчымая прычына – неасцярожнасць у час курэння.

Падраздзяленні МНС не прыцягваліся.

**Паводле сайта МНС.**

## Забаранілі выходзіць на лёд. Правапарушальнікаў чакае адказнасць

МАЛАДЗЕЧНА

Паводле загаду Мінскага аблвыканкама, ад 12 снежня забаронена выходзіць на лёд на ўсіх вадаёмах Мінскай вобласці. Гэта абумоўлена павышэннем тэмпературы, ад якой таўшчыня лёду пачала змяншацца.

Да адмены ўказанага распараджэння будуць праводзіць рэйды, каб папярэдзіць няшчасныя выпадкі. Вінаватых у парушэннях загаду прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле кіраўніка Маладзечанскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на вадзе Аляксандра Семашкевіча.**


Фота Наталлі ТУР.

Кіроўца Павел Цыбін пакідае залу суда.

# “З гэтым грузам я буду хадзіць усё жыццё”

## Судзяць кіроўцу, які наехаў на 13-гадовую школьніцу на ўборцы бульбы

МАЛАДЗЕЧНА

**21 снежня пачаўся працэс па справе кіроўцы, які падчас уборкі бульбы 29 верасня наехаў на васьмікласніцу Віку Папчэню. 13-гадовая дзяўчынка загінула на месцы.**

На лаве падсудных – 22-гадовы **Павел Цыбін.** Яго абвінавачваюць у парушэнні правілаў дарожнага руху, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

Паўлу пагражае да пяці год зняволення.

Падчас пасяджэння суда Павел сваю віну цалкам прызнаў:

– Я разумею, што дзяўчынку ўжо не вернеш, але мне ж з гэтым грузам усе жыццё хадзіць.

Кіроўца расказаў, што пасля здарэння ён сабраў бацькам Вікторы 10 мільёнаў недэнамінаваных рублёў, папрасіў прабачэння, на што маці Вікторы Юлія адказала: “Бог даруе”.

**У Паўла ёсць жонка і сын Рома, якому паўтара года.**

Калі пракурор **Святаслаў Цітовіч** зачытваў матэрыялы справы, у ліку іншага называў характарыстыкі з месца работы, вучобы і жыхарства Паўла. Калегі, настаўнікі і суседзі характарызуюць Паўла, як станоўчага, добрага чалавека, які гатовы прыйсці на дапамогу кожнаму.

У справе Паўла маюцца і матэрыялы, якія сведчаць пра тое, што ён раней прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху.

Калі суддзя **Аляксей Іршын** спытаўся ў маці Вікторы Папчэні, якую меру пакарання яна просіць для Паўла: жорсткую ці змякчыць, яна адказала:

– На погляд суда.

Пра трагедыю маці Вікторы даведалася ад аднакласніцы, якая прынесла дадому заплечнік Вікторыі.

Затым адбыўся допыт сведкаў: настаўнікаў, што суправаджалі дзяцей на полі, і іншых людзей, хто ў той дзень працаваў там і ў момант трагедыі аказаўся побач з Вікторыяй.

Ніхто з дарослых моманту, калі грузавік наехаў на дзяўчынку, не бачыў. Ужо пасля таго, як усё адбылося, пачулі крыкі дзяцей: “Віку задушылі, на дапамогу”.

Настаўнік з СШ №2, які аказаўся побач на момант трагедыі, узгадвае, што, калі яго сталі клікаць дзеці, ён знаходзіўся ў метрах 30, падбег, убачыў дзіця. У дзяўчынкі ішла з рота кроў. Ён падняў ёй галаву, выклікаў “хуткую”. Праз 12 хвілін “хуткая” прыехала.

Настаўнікі кажуць, што Вікторыю аднеслі ў рэанімабіль, а праз 10 хвілін выйшаў доктар і сказаў, што выратаваць яе не ўдалося.

У медыцынскай даведцы, што прыкладзеная да справы, называюцца шматлікія траўмы. У заключэнні дактароў указана, што смерць наступіла ад траўматычнага шоку.

У канцы пасяджэння пракурор папрасіў час для падрыхтоўкі матэрыялаў для спрэчкі бакоў.

Наступнае пасяджэнне прызначанае на 23 снежня.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## Начное здарэнне ў Ярмолічах: у хаце знайшлі труп жанчыны

ВІЛЕЙКА

У вёсцы Ярмолічы на Вілейшчыне ў 01:40 у хаце знайшлі труп жанчыны.

Забітая жанчына – 50-гадовая гаспадыня дома.

Папярэдне ўстанавілі, што яе апоўначы ў спрэчцы пасля сумеснага распівання спіртных напояў пабіў сужыцельнік. Мужчыну 1967 года нараджэння затрымалі. Раней ён быў судзімы.

## Забойства ў маладзечанскім інтэрнаце: знайшлі труп мужчыны з нажавым раненнем

МАЛАДЗЕЧНА

19 снежня ў 15:20 у пакоі аднаго з маладзечанскіх інтэрнатаў знайшлі труп 34-гадовага мужчыны з нажавым раненнем грудной клеткі. Забіты – работнік адной з арганізацый горада.

Устанавілі, што каля 14:30 у гэтым пакоі ў спрэчцы пасля сумеснага распівання спіртных напояў мужчыну ўдарыла нажом 28-гадовая жыхарка вёскі Кучкі. Жанчыну затрымаў нарад аддзела Дэпартаменту аховы.

Раённы Следчы камітэт Маладзечна ўзбудзіў крымінальную справу.

**Паводле сайта МУС Рэспублікі Беларусь.**

## На пажары ў Заскавічах загінуў пенсіянер

МАЛАДЗЕЧНА

18 снежня ў 06:18 у аддзел МНС паведамілі пра пажар у Заскавічах.

Гарэў жылы дом.

Выратавальнікі патушылі дом і пры аглядзе знайшлі труп гаспадара. Гэта 68-гадовы мужчына. Ён жыў адзін.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, неасцярожнасць пры курэнні.

**Паводле сайта МНС.**

# “Заходзіш у ваду ў гумовых ботах, а рыба не ўцякае”

## Хто такія ласасёвыя рыбы і як іх зберагчы – аб гэтым раскажуць у Варнянах

АСТРАВЕЦ

**Пра тое, што на Астравеччыне можна пабачыць унікальных для Беларусі ласасёвых рыб, нагадвае нават герб горада. А каб даведацца болей – як жывуць рыбы, чым харчуюцца і навошта штогод прыплываюць у Беларусь, – можна будзе звярнуцца ў інфацэнтр па захаванні ласасёвых рыб. Ён адкрыецца 20 студзеня ў вёсцы Варняны Астравецкага раёна.**




Валанцёр Валянцін сочыць за ўмовамі ласасёвых на Астравеччыне.

### Два ў адным: інфармацыйны цэнтр і навучальная лабараторыя

Інфацэнтр будзе дзейнічаць пры падтрымцы арганізацыі “Ахова птушак Бацькаўшчыны” (АПБ), а абсталёўвацца – у межах праекта “Развіццё і ўмацаванне сеткі захавальнікаў вакол значных водна-балотных угоддзяў” пры фінансавай падтрымцы кааліцыі “Чыстая Балтыка”.

Варняны выбралі не выпадкова – менавіта ў ваколіцах можна дагэтуль сустрэць ласасёвых рыб, што прыплываюць на нераст. Да таго ж на месцы ёсць актывісты, зацікаўленыя ў існаванні цэнтра. А мясцовая навучальная ўстанова, навучальна-педагагічны комплекс “Варнянскі яслі-сад-сярэдняя школа”, пагадзілася даць памяшканне.

Адкрыццё цэнтра плануецца на 20 студзеня – якраз у дзень юбілею новага будынка школы.

– Пэўны працэнт мясцовых жыхароў ведае пра існаванне ласасёвых рыб, – кажа **Максім Нямчынаў**, каардынатар праекта па стварэнні ласасёвага цэнтра. – Яшчэ меншы ведае аб праблемах гэтых рыб. І зусім мала хто ведае, што агулам уяўляюць сабой ласасёвыя, чым яны адрозніваюцца ад іншых рыб. Каб гэтага прабелу больш не было, мы і ствараем цэнтр.

Ласасёвы цэнтр будзе працаваць у рэжыме школы. Ужо прайшло некалькі семінараў з вучнямі і настаўнікамі, каб яны змаглі распавесці пра цэнтр усім ахвотным.

– На месцы вы пабачыце каля дванаццаці стэндаў з інфармацыяй пра віды ласасёвых рыб, іх шлях на нераст, тыя пагрозы, якія для іх існуюць, – распавядае каардынатар. – Можна будзе даведацца і пра сам нераст – у ласасёвых ён адбываецца не так, як у іншых рыб, яны не проста кідаюць ікру і сплываюць.

Інфармацыя на стэндах пададзеная такім чынам, каб наведнікі змаглі вынесці нешта новае для сябе і без дапамогі экскурсавода. Напрыклад, разуменне таго, што мыйныя сродкі, якімі мы карыстаемся штодзень, уплываюць на стан прыродных вадаёмаў.

Цэнтр будзе мець тры рабочыя мовы – беларускую, рускую і англійскую.

– Мяркуем, што на базе цэнтра будзе працаваць навучальная лабараторыя, – дадае Максім Нямчынаў. – У ёй мы будзем займацца адаптаванай версіяй назірання за рэкамі (river watch). Будзем вывучаць стан вадаёма па яго насельніках.

### Астравецкія ласасёвыя – самыя дужыя

Дапамагчы рыбам на практыцы можа любы ахвотны.

Можна далучыцца да валанцёраў арганізацыі “Экадом-Нёман”, якія штогод ладзяць летнікі для патрулявання тэрыторыі нерасту. Летнікамі іх можна назваць хіба што ўмоўна – нераст адбываецца ад канца кастрычніка да пачатку снежня. На гэты перыяд валанцёры разбіваюць намёты і адпуджваюць браканьераў.

– Важна распаўсюджваць звесткі аб пагрозах і правільна іх выкарыстоўваць, – дзеліцца досведам каардынатар праекта. – Напрыклад, будаўніцтва АЭС пагражае тым, што ў выніку скідвання цёплай вады ў Вілію тэмпература ў ручаях і прытоках павысіцца. Тады рыба перастане прыплываць на нераст.

Пасля звароту экалагічнай супольнасці АЭС абяцалі абсталяваць неабходнай колькасцю ахаладжальнай апаратуры.

– Падаецца, што ласасёвых у нас не так і шмат – мы назіраем каля ста нерастовых гнёздаў цягам сезона, – разважае Максім Нямчынаў. – Але іх стан істотна ўплывае на стан усёй папуляцыі рыб у Балтыйскім моры. Да таго ж рыбы, якія дапłываюць да Астравеччыны, – самыя дужыя сярод ласасёвых. Яны праплываюць па рэках каля 600 кіламетраў!

### “Дзеці ў захапленні ад рыб”

Варнянскі комплекс яслі-сад-сярэдняя школа цягам апошніх шасці гадоў дапамагае ў ахове рэдкіх рыб.

– Шэсць гадоў таму мы даведаліся, што ў рэчачкі нашага рэгіёна заплывае кумжа, – кажа **Алена Юркойць**, дырэктар комплексу. – Тады мы разам з дзецьмі пачалі назіраць за рыбай, лічыць гнёзды. Дзеці былі ў захапленні: заходзіш у гумовых ботах у ручаі, вада празрыстая і ты бачыш рыбу, падыходзіш бліжэй, а яна не ўцякае. Пасля да назіранняў пачалі далучацца і бацькі.

Ужо летась школьнікі даведаліся, што менавіта ў будынку іх навучальнай установы размесціцца інфармацыйны цэнтр. Ужо вызначыліся з вучнямі і настаўнікамі, якія будуць праводзіць экскурсіі на трох мовах. Іх кандыдатуры абмяркуюць з супрацоўнікамі АПБ.

– Мы вельмі цешымся, што цэнтр будзе працаваць у нас, – дадае Алена Юркойць. – Гэта будзе цудоўнае месца і для інфармавання мясцовага насельніцтва, і для прыродаахоўнай дзейнасці, і проста для агульнага развіцця жыхароў раёна.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com




# У год Вогненнага Пеўня будзьце смялейшымі ў макіяжы

**Сімвалам 2017 года стане Вогненны Певень. Гэтай птушцы падабаецца ўсё кідкае, нестандартнае, рознакаляровае, у тым ліку і макіяж.**

Певень стане заступнікам тых прадстаўніц прыгожага полу, якія рашацца на эксперымент. Галоўнае – не баяцца быць яркай.

Навагодні макіяж можа быць настолькі незвычайным, яркім, кідкім, наколькі вам гэтага хочацца. Дайце волю фантазіі, смела ўвасабляйце свае ідэі і мары. Не бойцеся блішчаць ярчэй за навагоднюю ёлку.

Напярэдадні свята ўзбройцеся стразамі, бліскаўкамі, каменьчыкамі для макіяжу. Яны дапамогуць зрабіць вобраз больш кідкім. Важна пры гэтым не перабольшыць. Некалькі стразікаў альбо бліскавак можна прыклеіць каля вугалкоў вачэй. Імі ж можна ўпрыгожыць аголеныя часткі цела.

### Падавацца некранутай прыгажуняй альбо ракавой мадам

Гэтай зімой модніцы застануцца сябрамі з ружовай памадай. Яна не выйдзе з моды. Мяккія адценні ў макіяжы падкрэсляць натуральнасць і маладосць.

Аднак не менш прыцягальным стане вобраз ракавой жанчыны з яркімі вуснамі. Галоўнае, каб рашэнне адпавядала астатняму макіяжу і стылю.

Можна зрабіць стаўку на бляск, тым самым стварыць эфект вільготных вуснаў альбо дадаць бліскавак і пацягу заварожваць сімвал надыходзячага года – Пеўня.

Рэкамендуем выкарыстоўваць цені наступных адценняў: фіялетавага, карычневага, барвовага, залацістага, меднага, ружовага, зялёнага. Колеры, якія ёсць у афарбоўцы пеўня, тым больш вогненнага.

### Правілы макіяжу

1. Не забывайцеся, што макіяж павінны адпавядаць вобразу. Яркі макіяж выйгрышна глядзіцца з адзеннем прыглушаных адценняў. Калі ж разынкай вашага вобразу з’яўляецца сукенка альбо аксесуар, выбірайце цені і памаду нейтральных колераў.
2. Нават у самым кідкім макіяжы павінны быць акцэнт альбо на вуснах, альбо на вачах. У адваротным выпадку макіяж можа падасца вульгарным.
3. Макіяж павінны пратрымацца ўсю ўрачыстасць. Таму выкарыстоўвайце толькі якасную касметыку.

**Калі вы шукаеце спецыяліста па візажы, які дапаможа стварыць вобраз і зрабіць якасны і прафесійны макіяж, у вас ёсць шанец паспець запісацца да абсалютнай чэмпіёнкі Беларусі па макіяжы Святланы Прадухі. А таксама трапіць да яе на навучанне макіяжу для сябе і на прафесійны курс “Візажыст чацвертага разраду”. Нумар для сувязі ў аб’яве.**

Будзьце самымі прыгожымі ў надыходзячым годзе.

## Кіно без межаў: у Маладзечне паказалі фільм для невідушчых і пра невідушчых

МАЛАДЗЕЧНА

**“Толькі ўяві” – так называўся фільм, што паказалі ў кінатэатры “Радзіма” 15 снежня. Назва сімвалічная, калі ўлічыць, што кіно гэта разлічанае на невідушчых і людзей, якія дрэнна бачаць.**

У Маладзечне такі асаблівы фільм паказалі ўпершыню. Да гэтага былі прагляды ў Мінску і Гродне.

Па словах арганізатара прагляду кіраўніка праекта “Кіно без межаў” **Аляксандра Калошы**, у Беларусі інваліды па зроку доўгі час не маглі глядзець фільмы без дапамогі іншых людзей, якія каментавалі ім усё, што адбывалася на экране.

На сённяшні дзень дзякуючы аўдыёдыскрыпцыі – кароткаму гукаваму каментарыю – у невідушчых людзей такая магчымасць з’явілася. За мяжой аўдыёдыскрыпцыя – ужо даўно распаўсюджаная з’ява. З ёй выходзяць 30% фільмаў.

Праект пачынаўся з польскіх фільмаў. “Уяві сабе” – таксама польскае кіно.

Аднак арганізатары праекта ўжо заключылі дагавор з “Беларусьфільмам” на аўдыёдыскрыпцыю 12 твораў. Зроблены пакуль чатыры: “Горад майстроў”, “Белыя росы”, “Прыгоды Бураціна” і “У жніўні 44-га”.

– Галоўная наша праблема – гэта грошы, – падзяліўся Аляксандр Калоша.

Па словах мужчыны, аўдыёдыскрыпцыя – вельмі дарагая. У Расіі адаптаваць адзін фільм для невідушчых каштуе прыкладна чатыры з паловай тысячы долараў.

У Беларусі, кажа Аляксандр, усё атрымліваецца танней. Бо шмат усяго людзі робяць на валанцёрскіх умовах. Распаўсюджваюцца дыскі з адаптаванымі фільмамі па бібліятэках Беларусі таксама бясплатна. Уваход у кінатэатр на такія паказы заўсёды вольны.

Адаптаваць фільм для невідушчых не толькі дорага, а яшчэ і патрабуе напружанай працы ад дыктара. Ёсць шмат патрабаванняў да аўдыёдыскрыпцыі. Агучваць трэба ярка, лаканічна, аб’ектыўна, абавязкова толькі ў цяперашнім часе, укладаючыся паміж дыялогамі герояў.

Фільм “Толькі ўяві” адаптаваны для невідушчых, але яго карысна будзе паглядзець і звычайным людзям, каб лепш зразумець тых, хто мае сур’ёзныя праблемы са зрокам, упэўнены Аляксандр Калоша.

У зале на праглядзе прысутнічалі дарослыя інваліды па зроку, вучні з маладзечанскай школы-інтэрната для дзяцей з парушэннямі зроку, прадстаўнікі прадпрыемства “Энва”, жыхары горада.

**Даведка “РГ”:**
**Аўдыёдыскрыпцыя** (тыфлакаментаванне) – лаканічнае апісанне прадмета, прасторы або дзеяння, якія незразумелыя невідушчаму або чалавеку, які дрэнна бачыць, без спецыяльных тлумачэнняў. Упершыню тыфлакаментаванне арганізавалі ў Савецкім Саюзе ў Маскве ў 1978 годзе. Узнікненне і фарміраванне тыфлакаментавання было амаль аднachасовым і ішло паралельна як на Захадзе, так і ў СССР да часоў перабудовы. Паколькі гэтыя працэсы не перасякаліся, з’явіліся два тэрміны для абазначэння такога віду дзейнасці: тыфлакаментаванне – у СССР і аўдыёдыскрыпцыя – за мяжой.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Кадр з фільма на kinomania.ru

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Фішкай каляднай выставы ў Вілейцы стаў нямецкі адвент-каляндар

ВІЛЕЙКА

**Стварыць навагодні настрой можна па-рознаму. Глядзець старыя святочныя мультфільмы. Майстраваць упрыгожванні для ёлкі. Скрынямі закупляць мандарыны. Раздаваць даўгі.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.
Вучні з гімназіі “Логас” паказалі на выставе свае працы.

А можна наведаць выставу “Зімовыя фантазіі”. Яе зладзілі супрацоўнікі вілейскага краязнаўчага музея. Выстава адкрылася 14 снежня ў зале імя Нікадзіма Сілівановіча.

– Такую выставу мы ладзім штогод. Але раней арганізоўвалі яе ўжо пасля Новага года, бліжэй да 7 студзеня, – расказала навуковы супрацоўнік музея арганізатар выставы **Надзея Аўдзей**.

Аднак пасля Новага года, па словах жанчыны, адпаведнага настрою ні ў арганізатараў, ні ў наведнікаў ужо не было. Святочная эйфарыя да гэтага часу праходзіла, мерапрыемства не было такім актуальным. Таму сёлета вырашылі зрабіць выставу раней.

### Удзельнічаюць і пенсіянеры, і школьнікі

У такі час, кажа Надзея, экспанаты сабраць больш складана. Бо якраз у школах праводзяць падобныя выставы. Аднак супрацоўнікі музея актыўна шукалі ўдзельнікаў, шырока анансавалі свае мерапрыемствы, агітавалі і школьнікаў, і дарослых жыхароў горада.

У выніку ў выставе прынялі ўдзел вучні гімназіі “Логас” разам са сваім кіраўніком, настаўніцай выяўленчага мастацтва **Аленай Мацюшонак**. Шмат прац, у тым ліку і сімвал года – мяккага Пеўніка, – прадставіў вілейскі Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

Адметнасць сёлетняй выставы ў тым, што на ёй ёсць работы сталых людзей, якія наведваюць гурткі для пенсіянераў у вілейскім цэнтры сацыяльнага абслугоўвання. Тут робяць паштоўкі, цацкі, рэчы з гліны.

Па словах дырэктара цэнтра **Марыны Макаравай**, у рамках арт-лабараторыі “Добрыя рэчы” ў цэнтры шмат працуюць не толькі са сталымі людзьмі, а з усімі, каму цікава ствараць нешта ўласнымі рукамі. Сюды запрашаюць рамеснікаў, ладзяць майстар-класы.

Своеасаблівым “пачаткам” выставы стаў праект-конкурс “Арт-ёлка”, арганізаваны некалькі год таму. Тады жыхары горада выстаўлялі самаробныя ёлкі, навагоднія цацкі. Аднак конкурс хутка “прыеўся”, а працягу каляднай тэматыкі хацелася. Такім працягам і стала выстава “Зімовыя фантазіі”.

Сёлета ў выставачнай зале наведнікі ўбачаць навагоднія малюнкі, вышываныя карціны, ёлачныя цацкі з розных матэрыялаў, навагоднія паштоўкі, рэчы з гліны, калядныя вянкі, свяцільнікі, ёлкі розных памераў, паштоўкі, зробленыя ў тэхніцы “скрапбукінг”.

А пра карункі фрывалітэ, прадстаўленыя на выставе, Надзея расказала гісторыю. Аказваецца, майстры ў Францыі плялі такія карункі ў часы Людовіка 14. А сёння такім пляценнем займаюцца ў Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання.

### Як стварыць сабе настрой з дапамогай календара

Кожная выстава адрозніваецца адна ад другой, бо мае сваю “фішку”. На гэты раз “фішкай” стаў адвент-каляндар – маленькія пранумараваныя канверты. Паўдзельнічаць у запаўненні такога календара мог кожны. У канверты наведнікі клалі запіскі з самымі важнымі справамі, якія неабходна зрабіць да Новага года.

Надзея Аўдзей расказала, што першы адвент-каляндар з’явіўся ў 19 стагоддзі ў асяроддзі немцаў-лютэранаў. Тады ён называўся каляндар чакання. Колькасць дзён да Каляд пазначалі палачкамі, малюючы іх крэйдай на сцяне або на дзвярах. Кожны дзень сціралі па адной палачцы.

Адвент з лацінскай мовы перакладаецца, як “прышэсце”, “надыход”.

**Першы надрукаваны адвент-каляндар выдаў у Германіі Герхард Ланг, які працаваў у друкарні ў Мюнхене.**

У яго дзяцінстве за 24 дні да Каляд мама кожны дзень прымацоўвала па адной цукерцы да паштоўкі, каб стварыць сыну святочны настрой.

У 1908 годзе яго фірма ўпершыню прадставіла адвент-каляндар з 24 малюнкамі.

Затым каляндар удасканалілі. У ім зрабілі маленькія дзверцы, за якімі маглі хавацца ласункі альбо фрагменты з Біbліі. Менавіта гэтая версія календара стала найбольш запатрабаванай.

У 30-я гады мінулага стагоддзя друкарня Ланга зачынілася, але за гэты час ён стварыў каля 30 розных адвент-календароў.

Пасля Другой сусветнай вайны немец **Рыхард Зелмер** са Штутгарта узнавіў выпуск друкаваных калядных календароў.

На пастсавецкай прасторы пра адвент-каляндар даведаліся нядаўна. Такі каляндар не толькі стварае перадсвяточны настрой, але і ўпрыгожвае дом перад Калядамі.

Наведаць выставу можна да 8 студзеня. А вось паўдзельнічаць у стварэнні адвент-календара можна толькі да 24 снежня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Тэлетыдзень

ТРАНСПАРТ

Вашы аб’явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце “Вечерний Бобруйск”. Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1986 г.в., на хаду, 700 руб. Маладзечна. Т. (8-025) 9870194.

• Аўтапрычэп “Зубраня”, 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.

• ВАЗ-11113, 1999 г.в., 0,75 бензін, пасля капрамонту, 1000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 3790419.

• ГАЗ-31105, 2006 г.в., 2,4 бензін, 980 руб., торг, можна па запчастках. Вілейка Т. (8-029) 8732780.

• ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• Пежо-406, 2003 г.в., дызель 2,0 НДІ, цана 7000 рублёў. Т. (8-029) 9462238.*

• Рэно-Меган-Класік, 1999 г.в., дызель 1,9 дті, 3000 руб. Торг. Патрабуецца рамонт кузава. Т. (8-029) 8617699.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*

• Гума зімовая шыпаваная Нокіа 205/70 R 15, б/к, 3 шт., 120 руб. Вілейка. Т. (8-029) 8732780.

• Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

• Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*

• Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

• Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі, для сябе. Т. (8-029) 1696265, (8-029) 7703210.*

• Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*

• Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*

• Іншамарку для сябе, на хаду, можна аварыйную альбо з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы і гараж у ГБК-4. Т. (8-029) 2521100.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-025) 7417101, (8-01771) 20165.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2520004.*

• 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6842528.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж у ГБК-2, блок №10. Вілейка. Т. (8-029) 6842528.*

• Гараж у ГК № 14, патынкаваны, бетонная падлога, яма, падвал. Т. (8-029) 7082574.

• Два гаражы, якія стаяць побач, падвал па перыметры, вышыня варот 2,5 м, ГК 39 у Маладзечне. Т. (8-044) 7387674.

• Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай, 13, цэнтр, ацяпленне, вада, добры раён. Т. (8-029) 7589686.

• Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.

• Участак 13 сотак, 1 км ад Вілейкі, в. Івонцавічы. Т. (8-033) 6125798.

### ЗДАМ

• **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

• У арэнду плошчы ад 12 до 100 кв.м. Т. (8-029) 7662646.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Т. (8-044) 5745873.** Юркоў У.А. *

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Паслугі перавозкі МАЗ, 10 т.: дровы (бярозавыя), гравій, чарназём. ІП Слуцкі Д.В. УНП 691172393. Т. (8-029)8758586.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем комплексны рамонт: тынкоўка, столь з ГКЛ, шпаклёўка, афарбоўка, электрыка, сантэхніка, укладка пліткі, ламінату, паклейка шпалер (обоев). ІП Крывашэя В.Г. УНП 691885229. Т. (8-029) 1391932.*

• **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, “АТЛАНТ”, BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП “Планета інтэлекту” УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рэпетытар. Руская мова. ЦТ. Т. (8-044) 7498715.*

• Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.**
**Астравец** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.**
**Ашмяны** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.**
**Валожын** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.**
**Вілейка** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Мядзел** вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.**

** Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ –НЕ

# Беласнежная ўсмешка забяспечыць аўтарытэт на рабоце і поспех у каханні

**Мяне часта пытаюцца наконт таго, што кажа гараскоп пра зубы. І ці ўплываюць знакі задыяка на стан нашых зубоў. Дзіўна, але ў кожнага знака ёсць свае праблемы.**



**АВЕН.** Вы вельмі адчувальныя да выдалення зубоў і зубных нерваў. Таму важная якасная анестэзія. Крытычны перыяд – калі ёсць небяспека пераахаладжэння і запаленчых працэсаў. У гэты час варта пазбягаць халоднай ежы, асабліва марожанага.



**ЦЯЛЕЦ.** Праявіце больш увагі да стану свайго здароўя. Не варта займацца самалячэннем. Калі адчулі недамаганне – звярніцеся да спецыяліста. І не адкладвайце візіт да стаматолага – бо зубы ў вас разбураюцца вельмі хутка.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ваш вораг – скразнякі, холад і стрэс. У вас схільнасць да праблем з дзяснамі і парадантыту. Выкарыстоўвайце рэгулярна зубныя ніткі і гелі. Займайцеся спортам, актыўнай дзейнасцю па ўзнаўленні і прымнажэнні запасаў здаровых сіл у арганізме.



**РАК.** Вы – ласуны, таму часта сутыкаецеся з праблемай карыесу. Яшчэ адна праблема – жоўтыя зубы, незалежна ад таго, курыце вы ці часта п'яце каву. Комплекснае лячэнне і змена рацыёну, вам трэба распрацоўваць меню на кожны дзень.



**ЛЕЎ.** Сачыць, каб не пашкодзіць зубную эмаль. Таму не нагружайце зубы цвёрдай ежай, пазбягайце чыпсаў, арэхаў, цвёрдых закусак. Для вас увогуле характэрная паталагічная "сціральнасць" зубоў. Напрыклад, клінавідны дэфект, якія бывае ад частага спажывання семачак. Дыета для зубоў – вітаміны з кальцыем, прадукты, багатыя на кальцый, рыба.



**ДЗЕВА.** Для прафілактыкі карыесу вам неабходныя полівітаміны, бо яго развіццё правакуе нервовае знясіленне. Прыкметы карыесу – плямы на эмалі. Менавіта вашы зубы могуць капрызліва выдаляць чужародныя элементы – пломбы, таму выкарыстоўвайце самыя лепшыя.



**Ваша здароўе – вынік любові да самога сябе. Любіце кожную клетачку свайго арганізма – і ён аддзячыць добрым самаадчуваннем і настроем.**





**ШАЛІ.** Адносцеся да сябе беражліва, як да хрустальнай вазы, якая ад неасцярожнага абыходжання можа разляцецца на тысячу асколкаў. Здаровыя зубы для вас – адзін з паказчыкаў прыгажосці. А так як у вас зубы слабыя, то своечасова займайцеся іх лячэннем. Сярод вас часта сустракаюцца людзі з няправільным прыкусам. Брэкеты ў падлеткавым узросце – звычайная з'ява.



**СКАРПІЁН.** У вас зубы ў выдатным стане, калі параўноўваць з астатнімі знакамі задыяка. Вам не трэба баяцца стаматолагаў, бо лячэнне вашых зубоў праходзіць хутка і не балюча. Удзяліце ўвагу свайму горлу, не застудзіце, пазбягайце скразнякоў.



**СТРАЛЕЦ.** Вас часта турбуюць зубы, прычына – прастуды і вірусныя інфекцыі, якія выклікаюць запаленчыя працэсы. Праблемнае месца – каранёвыя каналы. Не адкладвайце паход да стаматолага, і вы пазбавіце сябе ад клопатаў з зубамі на доўгія гады.



**КАЗЯРОГ.** У вас самыя моцныя і здаровыя зубы, аднак важна два разы на год з мэтай прафілактыкі наведваць доктара.



**ВАДАЛЕЙ.** Дзіўна, але як толькі вы прывялі зубы ў парадак, вас чакаюць перамены ў жыцці. Вам крайне неабходна мець прыгожую ўсмешку. Гэта падразумявае не толькі своечасовае лячэнне, але і эстэтычную рэстаўрацыю. Але даць вам рэкамендацыі нялёгка нават самаму дасведчанаму стаматолагу, бо вы не схільныя прыслухоўвацца да парадаў доктароў. Пазбягайце стрэсаў.



**РЫБЫ.** Вам вельмі важныя даверлівыя адносіны з доктарам. І гэта тычыцца не толькі лячэння зубоў. У вас ёсць схільнасць да кровапатачывасці, ацёкаў і з'яўлення флюсаў. Зубны боль для вас асабліва нясцерпны. Таму не травіце сябе абязбольвальнымі сродкамі, а адразу звяртайцеся да доктара. А ў цэлым стан зубоў залежыць ад догляду за імі з самага дзяцінства.

Марыя УРБАНОВІЧ.



● НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ РОДНАГА КРАЮ

# Калі ў Нарочы валамі аралі?

**Адказ на гэта і іншыя пытанні можна знайсці ў новай краязнаўчай кнізе аб Павіллі**



Карціна нашага земляка Фердынанда Рушчыца "Зямля". Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным музеі Польшчы.

Напісаная і здадзеная ў друкарню кніга **Сымона Барыса** і **Анатоля Рогача** "Нарачанскі край: ад Спяглянкі да Вяллі". Мы пагутарылі з суаўтарам гэтай кнігі пісьменнікам і краязнаўцам Сымонам Барысам.

**– Пра што расказваецца ў новай кнізе і як узнікла яе ідэя?**

– Калі сказаць коратка, дык гэта кніга пра прыроду і паселішчы Нарачанскага сельсавета Вілейскага раёна.

Пісаць яе я не збіраўся. Але мне гэту кнігу заказаў славуты наш зямляк геолаг **Георгі Ількевіч**. Развага яго была такая. У 2016 годзе Нарочы было 450 гадоў. Дата юбілейная і трэба было б надрукаваць кнігу пра Нарочу, але лепей пра ўвесь сельсавет Нарачанскі, бо ў папярэднюю "Нарачанка і яе берагі" па многіх вёсках не ўсё трапіла. Узяць хоць бы вёску Бараўцы. Пра яе трэба расказаць шырэй. Ён мне прапанаваў матэрыял па гэтай вёсцы і паабяцаў дапамагчы грашыма на друкаванне кнігі. Яго ідэю падтрымаў **Лявон Ахрэм**, жыхар Мінска, які нарадзіўся на Урэчы.

Спачатку я пагадзіўся ўзяць гатовы тэкст з папярэдняй кнігі пра Нарачанскі сельсавет і надрукаваць невялікую кнігу да юбілею, які адзначаецца 4 красавіка. Кніга магла б мець абʼём каля 250 старонак.

Пазней я размаўляў са старшынёй Нарачанскага сельвыканкама **Анатолем Бяганскім**, і мы разам абгаварылі, што можа быць у той кнізе. Памер яе я абяцаў да 300 старонак. Вызначылі нават кошт. Але тое, што мы захацелі змясціць, ніяк не стала на 300 старонак. Атрымалася, што кніга разам з каляровымі ілюстрацыямі мае 520 старонак. Болей старонак – даражэй і яе кошт. Будзе надрукавана толькі 50 кніг. На 40 ужо ёсць заказ.

Ад 10 мая і да 13 снежня я кожны дзень пісаў і рыхтаваў гэту кнігу. Мне дапамагалі новымі звесткамі і работнікі выканкама Нарачанскага сельсавета, і бухгалтэры ААТ "Нарачанскія зоры", а таксама геолаг Георгі Ількевіч і мастак **Барыс Цітовіч**. Матэрыялу я назбіраў многа. Шмат чаго знайшоў у сваім архіве. І не раз шкадаваў, што ўзяўся за гэту работу. Стольскі давялося папрацаваць. Але цяпер гэта кніга толькі нагадвае папярэднюю кнігу, але не паўтарае яе. Праўда, звесткі пра некаторыя малыя вёскі друкуюцца тыя ж самыя.

**– Ці трэба гэта кніга?**

– Трэба яна нашым сучаснікам і нашчадкам. Мы сёння ганарымся, што захаваўся Летапіс Нароцкай царквы. Кніга фактычна становіцца працягам яго, бо тут даецца гісторыя нашага краю. Напэўна, каб не было таго Летапісу, то ні Георгію Ількевічу, ні мне не было б жадання пісаць гэту кнігу. Я радуюся, што яе напісаў. Шмат чаго нават сам даведаўся ўпершыню. Напрыклад, ці аралі нашы продкі валамі? А калі аралі валамі, дык калі валоў замянілі коньмі? Адказ на пытанні ёсць у гэтай кнізе. Дарэчы, я змог адказаць на пытанні толькі ў апошнія дні.

Папярэднюю кнігу я таксама завяршаў адзін. Майго суаўтара няма. Аднак, слава Богу, нейкая незразумелая сіла дапамагала закончыць абедзве кнігі.

У кнізе распавядаецца, як жылі нашы продкі і бацькі, чаго мы дасягнулі. Гэта кніга пра родную вёску, якую нельга забыць да самай смерці.

На жаль, не ўсё трапіла ў кнігу. Што было неабходна, я змясціў. Але вось "Гутарка швагроў пра паноў" у дадатак не трапіла. Было б добра, каб "Рэгіянальная газета" надрукавала гэты запіс, бо ён актуальны сёння, як ніколі.

**– А што новага ў новай кнізе?**

– Тут расказваецца пра народны побыт нашых продкаў, чаго не было ў папярэдняй. Абноўлены дакументамі дадатак да кнігі. Друкуецца Летапіс Нароцкай царквы, які захаваўся да нашага часу. Так што гэты год я завяршаю другой кнігай. Першая была "Настаўнік пасля ўрокаў".

Гутарыла
**Анэля ІВАНОЎСКАЯ.**

## Гутарка швагроў пра сваіх паноў

**Фрагмент, які не патрапіў у кнігу**

Сустрэліся неяк увосень швагры Пётра Каркотка (мой хросны бацька) з Камарышкаў і каваль Анатоль Бяроза з Касічоў. Ні з таго ні з сяго, а пры мне завялі гутарку пра паноў.

Магчыма, хацелі даць мне зразумець як настаўніку і журналісту пра асаблівасці розных паноў. Паноў даўнейшых і сучасных таварышаў, інакш таварышчаў.

– Раней у нас былі прыродныя паны, і тых паноў было меней. Цяпер жа паны самаробныя, а таму іх нашмат болей. Самаробных нашмат болей вучыліся, болей адукаваных. Па 10-11 класаў скончылі ды яшчэ тэхнікум ці інстытут. Можа, таму яны і ад вясковых людзей больш далёкія, – сказаў так Пётра.

– Далёкія яны не толькі ад простых людзей, ад сялян, але яны далёкія і ад поля, ад нашай зямлі. Усе яны тут, як правіла, новыя, прыезджыя, прысланыя, а таму і часовыя. Вось і праяўляецца іх стаўленне да зямлі. Сёння, 4 кастрычніка, а на полі плошчай 10 гектараў яшчэ лён у снапках стаіць. Чарнеюць снапкі, гіне лён, можа і зусім згніць. Во гаспадары! Такога равуцкі пан Бахчанскі ніколі б не дапусціў. І кожны селянін да такой асенняй пары свой лён звёз бы з поля, – выказвае сваю крыўду Анатоль.

– У вас новы старшыня калгаса і, напэўна, малады. Ён за ўсім не ўглядзіць, – пачаў я выгароджваць кіраўніка.

– А тады навошта ў яго агранам і брыгадзір!? У Бахчанскага такіх памочнікаў не было. Ён сам за ўсім сачыў, – падвёў вынікі Анатоль Бяроза.

– Даўнейшыя паны па-польску мувілі. А іншы, бывала, наш паўпанак, так пальшчыць, што аж лоб яго трашчыць. А цяпер...

– А цяперашнія паны па-савецку ды па-расейску плявузгаюць абы-што, выкаблучваюцца, – перабіў гутарку швагер Анатоль.– Хочуць паказаць, што яны ўжо не сяляне, а паны. А палічыце, колькі іх цяпер у канторах пасела. На руках пальцаў не хопіць, каб іх пералічыць. А ўсе яны – нашы нахлебнікі.

– Дарэмна стараюцца стаць рускімі. Такія і ад роднай мовы, і ад усяго нашага адмовяцца, яны і сваіх бацькоў адчураюцца. А ўсё роўна іх, нашых выскачак, вышэй прадсядацеля калхозу не паставяць. Дарма стараюцца, – сказаў Пётра.

– На начальнікаў хопіць прыезджых з Расеі і без тутэйшых абыдуцца.

– Цяперашнім панам куды лацвей, чым тым прыродным – залатым пяром сабе зарплату пішуць, – падвёў вынікі гутаркі Пётра.

Паслухаў я гэтых мужыкоў і не стаў спрачацца з імі, бо ёсць і ў іх свая праўда. Гэта ж я пачуў голас народа. Іх погляд на тутэйшых паноў.

**1984 г. , в. Касічы.**
**(Запіс з блакнота С. В. Барыса.)**

● КАЛЯНДАР

## 23 СНЕЖНЯ

**155 гадоў** з часу заснавання (1862) Мінскага навуковага таварыства дактароў (з мэтай вывучэння санітарнага стану медыцынскага абслугоўвання і прафілактыкі захворванняў у Мінску і Мінскай губерні).

**95 гадоў** з дня нараджэння Вольгі Ладыгінай (1922 – 2008), заслужанага архітэктара Беларусі. Яна разам са скульптарам Мікалаем Кандрацьевым і архітэктарам Сталінам Федчанкам удзельнічала ў стварэнні мемарыяла ў вёсцы Доры на Валожыншчыне, прысвечанага жыхарам вёскі, якіх зажыва спалілі фашысты ў царкве, куды яны былі прымусова сагнаныя. У 1960-я гады пад яе кіраўніцтвам праектаваўся Рэспубліканскі інстытут анкалогіі і медрадыялогіі ў Бараўлянах і рэспубліканская (цяпер абласная) клінічная бальніца ў п. Лясное пад Мінскам.

## 24 СНЕЖНЯ

**255 гадоў** назад (1761) нарадзіўся Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года.

**110 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Шыбнёва (1907 – 1990), беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

## 25 СНЕЖНЯ

**55 гадоў** назад (1962) адбылося ўзбуйненне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення Беларусі (са 123 раёнаў створана 77).

**25 гадоў** назад (1991) Міхаіл Гарбачоў пакінуў пост Прэзідэнта СССР, над Крамлём у Маскве апушчаны чырвоны сцяг СССР.

## 27 СНЕЖНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Караля Адамавіча (1912 – 1980), архітэктара, дзяржаўнага дзеяча, заслужанага будаўніка Беларусі, народнага архітэктара СССР. Ён быў адным з аўтараў праекта "Брэсцкая крэпасць-герой". Сярод шматлікіх гэта быў самы важны яго праект.

**125 гадоў** назад (1891) памёр Аляксандр Ходзька, паэт, фальклярыст, усходазнаўца.

## 29 СНЕЖНЯ

**175 гадоў** з дня нараджэння Восіпа Лунца (1842 – 1930), беларускага доктара, заснавальніка першага ў Беларусі дзіцячага процітуберкулёзнага санаторыя ў вёсцы Навінкі Мінскага раёна.

У снежні:

**155 гадоў** назад (1862) на тэрыторыі Беларусі пракладзена першая лінія чыгункі Парэчча – Гродна як частка Пецярбургска – Варшаўскай чыгункі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Маладыя кампазітары СНД прысвяцілі музыку Максіму Багдановічу

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы міжнародны форум-семінар творчых майстэрняў МалАда прайшоў у Маладзечанскім дзяржаўным каледжы імя Агінскага 4 - 15 снежня.**

Праект адбыўся пры падтрымцы Міжнароднай гільдыі маладых кампазітараў і музыказнаўцаў MolOt international group і маладзёжнага аддзялення Саюза кампазітараў Расіі.

У семінары прынялі ўдзел восем маладых творцаў з Беларусі, Расіі і Малдовы. Адбор удзельнікаў ажыццяўляўся мастацкім саветам МалАда сярод найбольш актыўных членаў арганізацыі. Іх галоўнай мэтай стала стварэнне твораў для сімфанічнага аркестра і голасу, прысвечаных класіку беларускай паэзіі Максіму Багдановічу, 125-годдзе якога адзначаецца ў снежні 2016 года.

Па словах арганізатараў, унікальнае значэнне гэтага форуму ў тым, што нават у гісторыі СССР ніколі не праводзіліся сімфанічныя семінары. Гэта гістарычная падзея як для каледжа, так і для кампазітарскай супольнасці.

Для правядзення лекцый, майстар-класаў, "круглых сталоў", творчых сустрэч, індывідуальных заняткаў былі запрошаны майстры кампазіцыі, музыказнаўства і выканальніцкага мастацтва, сярод якіх **Яраслаў Судзілоўскі, Марк Пекарскі, Сяргей Увараў** (Масква), **Артур Забнін, Настасся Хрушчова** (Санкт-Пецярбург), **Сняжана Пыслар** (Кішынёў), **Аляксей Пілатаў** (Мінск). Напрыклад, скрыпач і кампазітар, кіраўнік Санкт-Пецярбургскага МалАд-ансамбля **Артур Забнін** правёў серыю лекцый і майстар-класаў для музыкантаў-струннікаў. **Марк Пекарскі** – чалавек-легенда, літаральна тыдзень назад яго ансамблю ўдарных інструментаў споўнілася сорак гадоў. Кандыдат мастацтвазнаўства аспірант Маскоўскай кансерваторыі **Сяргей Увараў** не толькі правёў заняткі для музыказнаўцаў, але і вучыў навучэнцаў каледжа браць інтэрв'ю, бо з'яўляецца намеснікам начальніка аддзела культуры адной з расійскіх газет.

– Семінар атрымаўся прадуктыўным і шматгранным: і для кампазітараў, і для выканаўцаў. Для кампазітараў былі створаны ідэальныя ўмовы для напісання сачыненняў. Адбыліся дзве рэпетыцыі з аркестрам, каб яны пачулі тое, што ў іх атрымалася. Гэта неацэнны досвед. Прадуктыўна папрацавалі. Уразіў самы малодшы ўдзельнік форуму **Нікіфар Якаўлеў** з Якуціі, які за тры дні напісаў 25 старонак партытуры, – адзначыў выкладчык Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага, старшыня БеларусьМалАд, сакратар праўлення беларускага грамадства сучаснай музыкі **Аляксей Пілатаў.**

Акрамя гэтага, госці культурнай сталіцы наведалі філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына", музей-сядзібу Міхала Агінскага ў Залессі, Нясвіжскі і Мірскі замкі. Усім вельмі спадабаўся горад Маладзечна: мала машын, паветра чыстае, парк, амфітэатр – усё для творчасці.

**– Цудоўны семінар, праграма вельмі насычаная. Я не шкадую, што пераадолеў шмат кіламетраў. Галоўнае, не адлегласць, а ўражанні, якія мы тут атрымалі,**

– падзяліўся пачуццямі Ільдар Камалаў з Казані.

Другі заезд удзельнікаў форуму, прысвечаны стагоддзю памяці Максіма Багдановіча, адбудзецца 24-29 красавіка 2017 года. Першы міжнародны семінар-форум маладых кампазітараў завершыцца сімфанічным канцэртам з твораў семінарыстаў у выкананні сімфанічнага аркестра МДМК імя Агінскага пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь кавалера ордэна Францішка Скарыны **Рыгора Сарокі**. Дырэктар каледжа плануе зрабіць гэты форум штогадовым.

**Надзея БОБРЫК, школа журналістыкі "Маладзік".**

# Маладзечна – Бабруйск... Культурная сталіца пераехала

**Маладзечна ўрачыста перадало ў мінулую пятніцу статус культурнай сталіцы краіны Бабруйску.**


Фота Наталлі ТУР.

З культурнай сталіцай маладзечанцы развіталіся песнямі і танцамі.

Што было зроблена, што не паспелі зрабіць? Пра гэта ішла гаворка з намеснікам старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Алесяй Лукоўскай.**

**Міністр культуры прапанаваў Маладзечну стаць культурнай сталіцай яшчэ раз**

У межах акцыі "Культурная сталіца Беларусі" запланавалі 158 праектаў. І сёлета не выканалі з іх толькі сем.

– Гэта былі праекты, звязаныя з гастролямі расійскіх артыстаў. І не адбыліся яны не па нашай віне, – тлумачыць Алеся Лукоўская.

У шэрагу самых значных праектаў года намесніца старшыні райвыканкама называе пленэр скульптараў, які адбыўся летам і па выніках якога ў горадзе з'явіўся парк скульптур.

– Мы вельмі спадзяёмся, што ў будучым годзе ў цэнтральнай бібліятэцы закончыцца рамонт і ў нашых мастакоў нарэшце з'явіцца галерэя.

Сёлета большасць мастакоў выказала жаданне мастацкую галерэю адкрыць менавіта ў залах цэнтральнай бібліятэкі.

– Усё ўпіраецца ў грошы. Калі будзе вядомы бюджэт на 2017 год, можна будзе гаварыць пра канкрэтныя справы, пра планы, мерапрыемствы.

Фінальным і адным з самых важных мерапрыемстваў гэтага года стаў канцэрт-закрыццё культурнай сталіцы.

**– Алеся Аляксандраўна, ці не падалося вам, што на канцэрце была перавага ў бок народных калектываў. Хіба Маладзечну больш няма чым ганарыцца?**

– Я не пагаджуся з вамі. Якраз такі наш горад быў прадстаўлены трыма рознымі накірункамі музычнай культуры: у канцэрце ўдзельнічаў сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі**, народны накірунак прадставіў ансамбль "Спадчына", а трэці накірунак – той, што апраўдвае назву нашага "маладога" горада, прадставілі дзеці, якія займаюцца ў гарадскіх эстрадных студыях.

На фінальны канцэрт са сваімі народнымі калектывамі прыехаў Бабруйск, горад, якому Маладзечна перадало эстафету "культурнай сталіцы".

Першы намеснік старшыні Бабруйскага гарвыканкама **Алег Ковель** узамен на сімвал культурнай сталіцы перадаў удзельнікам канцэрта бабруйскі зефір, словы падзякі і абяцанне таго, што Бабруйск будзе годна несці званне культурнай сталіцы.

На што старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** сказаў, звяртаючыся да гледачоў:

– Вы ж разумееце, што званне культурнай сталіцы мы перадаём фармальна, бо Маладзечна было, ёсць і будзе сапраўднай культурнай сталіцай.

Алеся Лукоўская расказала, што міністр культуры **Барыс Святлоў** прапанаваў Маладзечну ўдзельнічаць у адборы на культурную сталіцу яшчэ.

– Мы і так сталі ўнікальным горадам, якому пашчасціла быць культурнай сталіцай у год культуры, а калі раптам нас выберуць яшчэ раз – гэта ўвогуле будзе ўпершыню ў гісторыі краіны.

Хаця афіцыйна Маладзечна больш не сталіца культуры, але культурнае жыццё ў горадзе не спынілася. Горад жыве падрыхтоўкай да Новага года.

– Цяпер дабрачынныя ёлкі праходзяць у інтэрнатах, дзіцячай бальніцы, нашых тэатрах. Аўтапоезд Дзеда Мароза праехаўся па вёсках, дзе няма клубаў, школ, павіншаваў маленькіх жыхароў. 23 снежня ў Палацы культуры адбудзецца галоўная ёлка Маладзечна, дзе каля 700 дзяцей павіншуе Аляксандр Яхнавец. І на плошчы ў навагоднюю ноч таксама будзе весела. А вось ці будзе феерверк, стане вядома толькі 29 снежня.

**Наталля ТУР.**

## Жыхар Маладзечна: Не трэба забывацца на гістарычную спадчыну

Напярэдадні таго, як Маладзечна перадало статус культурнай сталіцы Бабруйску, у рэдакцыю звярнуўся маладзечанец **Васіль Капуцкі**, каб выказаць сваё меркаванне, якіх мерапрыемстваў не хапіла за гэты час.

– Мне падаецца, што праграма павінна быць больш разнастайная, – адзначае маладзечанец. – Не толькі шматлікія канцэрты, на якія запрашалі танцавальныя калектывы, розных артыстаў, але і па ўшанаванні гістарычнай спадчыны, памяці продкаў.

А прыкладаць сілы ёсць да чаго. У вёсцы Сакаўшчына, па словах нашага чытача, помнік зажывым спаленым жыхарам вёскі вонкава занядбаны: вянкі старыя, на лавах абшарпаная фарба.

– Прыкра, што каля возера людзі спраўляюць свае патрэбы, і гэта недалёка ад помніка, – абураецца мужчына. – Чаму ніхто не рэагуе на гэту сітуацыю? Чаму кампанія "Усходагра", на балансе якога лічыцца помнік, нічога не робіць, каб падтрымліваць яго ў належным стане? Летам я з сям'ёй прыязджаў добраўпарадкаваць гэта месца.

Маладзечанец узгадаў і вёску Рашаткі. Там на месцы воінскага пахавання Першай сусветнай вайны размяшчаецца стары крыж, які настолькі зарос травой, што хутка і не знойдзеш.

– У лістападзе трапіў на рэканструкцыю бою 100-гадовай даўніны ў вёску Забродздзе на Вілейшчыне, – расказвае Васіль Капуцкі. – Як быццам пабыў за мяжой. Пры гэтым Барыс Цітовіч выдаткоўвае на гэта ўласныя грошы. Чаму ж у год культуры у нас не прыдумалі нешта падобнае, каб захаваць памяць пра мінулае і незвычайным чынам паказаць людзям, як развіваліся гістарычныя падзеі?

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



# Каляды ў Германіі: "Санты няма, толькі маме не кажы"

**Мірыям і Тэа – маладыя людзі, якія прыехалі на год у Беларусь адразу пасля школы.**


Фота de-online.ru

Без гусі калядны стол у Германіі не абыходзіцца, але галоўнае – прыемная размова паміж сваякамі.

Такая практыка папулярная ў заходніх краінах – брацъ год перапынку пасля школы, каб зразумець, якой справе хочаш прысвяціць жыццё.

Пры пасярэдніцтве Інстытута імя Гётэ ў Мінску маладым людзям прапанавалі дапамагаць настаўнікам у маладзечанскай гімназіі №10.

Мірыям жыла ў Германіі ў невялікім горадзе каля Дзюсельдорфа. Тэа жыў у горадзе каля Дрэздэна.

Мірыям выдатна размаўляе па-руску з нямецкім акцэнтам: бацькі выехалі ў Германію ў 1993 годзе з Украіны. Яна наведвае заняткі "Мова нанова" ў Маладзечне і большасць беларускага тэксту таксама разумее. Мама Тэа вучыла рускую мову, але забыла. Сам ён таксама пачаў вучыць ад шостага класа, крыху гаворыць сам.

Перад паездкай у маладых людзей быў даволі дэпрэсіўны і сумны вобраз Беларусі.

– Я нават не чакала, што тут усё будзе такое сучаснае, а людзі, з якімі мы сустрэнемся, апынуцца такімі цёплымі і прыязнымі, – дзеліцца Мірыям.

Тэа прызнаецца, што ў Беларусі ён знайшоў шмат часу, каб падумаць і расслабіцца. І гэты час ужо даў свой плён: малады чалавек упэўнены, што не хоча быць настаўнікам, яго цікавіць палітыка, эканоміка і гісторыя. Затым хацеў бы вывучаць міжнародныя адносіны. Мірыям ўпэўнілася, што ёй вельмі падабаецца працаваць з дзецьмі.

### Бяром ёлку, якую іншыя выкінулі

Госці з'язджаюць на два тыдні дадому на Каляды, але пасля святаў зноў вернуцца ў Маладзечна. Яны нам расказалі, як звычайна святкуюць Каляды і Новы год у іх сем'ях.

Мама Мірыям іўдзейка, а тата праваслаўны. Таму ў іх сям'і 25 снежня не святкуюць. А Новы год адзначаюць гэтак жа, як некалі на постсавецкай прасторы: з аліўе, селядцом пад шубай, Дзедам Марозам і Снягурачкай.

Бацькі дзяўчыны не вельмі рэлігійныя, але не абмінаюць святкаваць Хануку. Запальваюць па свечцы ў кожны з васьмі дзён свята, наведваюць сінагогу, гатуюць смачныя стравы, а для дзяцей гэтыя дні поўныя вясёлосці і падарункаў.

У сям'і Тэа 24 снежня на вячэру заўсёды гатуюць бульбяную салату, сасіскі, а таксама іншыя стравы, якія падабаюцца родным. 25 снежня стол абавязкова ўпрыгожвае запечаная гусь ці качка, розныя мясныя стравы, чырвоная капуста, клёцкі, бульба. Шмат увагі надаюць упрыгажэнню свечкамі, а таксама адмысловай пірамідкай, якая круціцца. На ёй размешчаныя біблейскія сімвалы. Безумоўна, ставяць сапраўдную ёлку.

Тэа прызнаецца, што яго айчым не вельмі любіць купляць дарагую сапраўдную ёлку, ды і склада знайсці прыгожую ў ажыятаж, таму больш падабаецца узяць з лесу.

Бацькі Мірыям таксама ідуць на хітрыкі. Пасля 25 многім ёлка ўжо не трэба, і яе выкідаюць. А для іх святы толькі напярэдзе, таму бяруць ужо скарыстаную бясплатна.

На Каляды збіраюцца ўсёй сям'ёй. Але многія любяць не толькі павячэраць, але і кудысьці схадзіць, напрыклад, у кіно. Мама Тэа оперная спявачка, і ў калядныя дні ёй даводзіцца шмат працаваць.

Новы год для немцаў не мае такой урачыстасці, гэта нагода павесяліцца.

– Немцы на Новы год любяць піць шмат піва і шнапсу, святкуюць гучна, – распавядае Тэа. – Наранiцу на вуліцы шмат смецця і кепска пахне.

### Вязу з Беларусі "што з'есці, каб быў добры зрок"

На святы маладыя людзі вязуць падарункі, звязаныя з Беларуссю – торбы ці шкарпэткі з арнаментам, сувеніры. Мірыям вязе бабулі кнігу з рэцэптамі народнай медыцыны тыпу, "што з'есці, каб быў добры зрок" – у Германіі такія парады па здароўі не вельмі папулярныя.

Госці з Германіі гавораць, што не лічаць сябе рэлігійнымі, але падабаецца хадзіць у царкву менавіта на Каляды, калі там такая цёплая атмасфера. Часам служба праходзіць па-англійску і ў амерыканскім разнявоаленым стылі.

Мірыям верыла ў Дзеда Мароза да васьмі год. Выпадкова ўбачыла на відэа, што падарунак "ад Дзеда Мароза" паклалі бацькі – і было мора слёз. Пад ёлачкай звычайна знаходзіла набор доктара, дзіцячы мікраскоп і іншыя цацкі.

Бацькі Тэа дарылі карткі, якія ён збіраў, прылады для гульняў. Самы запамінальны падарунак – якраз вельмі рэдкая картка з выявай дракона. Хлопчык з ёй нават спаў. А вера ў Санта Клаўса знікла ў шэсць год. Хлопчык спытаўся ў таты, а чаму Санта Клаўс заўсёды выглядае па-рознаму, можа, ён несапраўдны? Тата і адказаў: "Так, сынок, твая праўда. Толькі маме не кажы".

Маладыя людзі кажуць, што эканомнасць і практычнасць немцаў ніяк не адбіваецца на святкаванні калядных святаў. У гэты час усе якраз імкнуцца развітацца з грашыма, каб атрымаць порцыю сапраўднага вясёлага свята.

**Эмілія ХВОЯ.**





## Чаму рэкламнае агенцтва зняло рэкламу мабільнага аператара

**У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеты" рэкламнае агенцтва зняло рэкламу мабільнага аператара нібыта таму, што кліент быў супраць размяшчэння яе ў беларускамоўнай газеце.**

Мы накіравалі запыт унітарнаму прадпрыемству velcom.

Як нам паведамілі ў адказе, "паміж рэкламнай агенцтвам і кампаніяй адбылося непаразуменне ў камунікацыі. Кампанія імкнецца друкаваць рэкламныя матэрыялы на мове выдання. Калі высветлілася, што рускамоўны тэкст не падыходзіць, мы прапанавалі агенцтву абмеркаваць пытанне падрыхтоўкі перакладa тэкста на беларускую мову". З-за абмежавання па часе выхад быў зняты.

Інфармацыя агенцтва пра тое, што нібыта velcom не жадае размяшчаць рэкламу ў беларускамоўнай газеце не адпавядае рэчаіснасці, сказана ў лісце ў рэдакцыю. У кампаніі падкрэслілі, што velcom шмат гадоў актыўна ўжывае беларускую мову ў камунікацыі. Гэта і іміджавыя, рэкламныя кампаніі, і сацыяльныя праекты ў сферы падтрымкі нацыянальнай культуры.

Такім чынам, непаразуменні былі выяўлены і сітуацыя вырашаная.

**Аддзел інфармацыі.**






## Падводзім вынікі

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі". Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Вось і закончыліся тры месяцы, за якія я ставіла сабе мэту пахудзець на 10 кілаграмаў. Час падводзіць вынікі.

Мэты я дасягнула, але ад гэтага не радасна. Чаму? Ды таму, што пры поўным выкананні ўсіх патрабаванняў **Руслана Курца** гэта лічба павінна была б быць мінус 25 кілаграмаў дакладна.

Але пропуск трэніровак, камандзіроўка цягам двух тыдняў без магчымасці наведваць залу, парушэнне рэжыму харчавання – і вось мы маем такі вынік.

Таму я працягваю самастойна наведваць залу, прытрымлівацца рэжыму і ўсё ж пастараюся дасягнуць мэты.

А парады чытачам "ад бывалай" я сфармулявала б так:

1. Ні пры якіх абставінах не адступайце ад сваёй мэты.
2. Як мінімум, два разы на тыдзень знаходзьце час на трэніроўкі.
3. Не дазваляйце сябе спакушаць рознымі прысмакамі.
4. Калі парушыце рэжым, шчыра ў гэтым прызнайцеся і пачынайце з пачатку.

Зорка з трэнажоркі – гэта не праект на тры месяцы, гэта тое, што павінна працягвацца кожны дзень.



МІНІ-ФУТБОЛ

## Астраўчане абыгралі "Мядзведзяў" і выйшлі ў лідары

**СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ**

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе "Ашмяны" дома 18 снежня прымалі "Навагрудак". Ашмянцы ўжо ў першым тайме забяспечылі сабе перавагу ў тры мячы: 5:2. Канчатковы лік матча 7:3. Чатыры галы за "Ашмяны" забіў **Вадзім Бацяноўскі**. Ён жа стаў лепшым гульцом з ашмянскай каманды.

У той жа дзень у Гервятах "Меліяратар" з Астраўца прымаў ліідара групы – "Мядзведзяў" са Смаргоні. Матч выдаўся напружаны і галявы. Першы тайм завяршыўся ўнічыю 3:3. У другім тайме гледачы пабачылі шмат галоў. Усё ж астраўчане змаглі схіліць фартуну на свой бок 9:8.

Лепшымі гульцамі сталі: у "Меліяратара" – **Станіслаў Тумкевіч** (на яго рахунку хеттрык). А ў смаргонцаў – **Іван Смольскі.**

Пасля гэтай перамогі "Меліяратар" выйшаў у лідары групы "Поўнач": каманда набрала 10 ачкоў. "Мядзведзі" апусціліся на трэцяе месца. "Ашмяны" хоць і набралі першыя ачкі, застаюцца на апошнім, шостым.

**Аддзел інфармацыі.**

# Канькі або юкігасэн – шукаем свой зімовы спорт

## Аб чым варта памятаць, трэніруючыся на марозным паветры

**Узімку вам не сядзіцца ў хаце, як хлопчыку малому з верша Якуба Коласа?**



Фота забяспечанае Натальяй ДАРАХОВІЧ.

Настаўніца фізкультуры Наталля Дараховіч ведае, як не страціць спартыўную форму за зіму.

Ці наадварот, вы ўпэўненыя, што зіма – не найлепшы час для заняткаў спортам? Для кожнага з вас спецыялісты маюць парады наконт таго, як цікава і бяспечна займацца спортам зімой. Першы крок – самы складаны: трэба выйсці на вуліцу.

Што рабіць далей, чытачам "РГ" падказвае **Наталля Дараховіч**, настаўніца фізкультуры маладзечанскай СШ №5.

### Сочым за тэмпературай і сілай ветру

Перад тым, як выходзіць займацца спортам на вуліцу, не лішнім будзе праверыць прагноз надвор'я. Калі слупок тэрмометра апусціўся да -15, то лепей абмежавацца кароткай трэніроўкай. Калі мароз дабіраецца да -18, то найлепшым варыянтам будзе ўстрымацца ад трэніровак на адкрытым паветры.

– Сачыце таксама за сілай ветру, – рэкамендуе Наталля Дараховіч. – Сучасныя прагнозы надвор'я дазваляюць гэта рабіць. Звычайна нас хвалюе толькі тэмпература. Але варта памятаць, што калі сіла ветру больш за тры метры ў секунду, то пры занятках спортам можна атрымаць абмаражэнне.

Памятаць аб правільным дыханні падчас трэніровак трэба незалежна ад тэмпературы паветра. Але калі вы займаецеся на марозе – асабліва важна кантраляваць сябе: удыхаем праз нос, выдыхаем праз рот.

– Вядома, лепей не пачынаць новы для сябе спорт на зімовай вуліцы, – дадае спадарыня Наталля. – З непрывычкі можна нахапацца халоднага паветра і давядзецца на некаторы час забыць пра трэніроўкі. Таму калі вельмі хочацца пачаць бегаць зранку – лепей пачакайце да вясны.

### На трэніроўках не забывайцеся… спяваць

Яшчэ адзін важны момант для зімовых заняткаў спортам – правільнае адзенне.

– Вопратка павінна быць лёгкая і цёплая, – кажа настаўніца фізкультуры. – Галоўнае, каб яна не перашкаджала вам рухацца і была зробленая з натуральных тканін. Бо інакшай будзеце парыцца, як у цэлафане. Шапку і пальчаткі лепей выбіраць з воданепранікальных матэрыялаў.

Навічкам часта складана вызначыцца з нагрузкамі падчас першых трэніровак. Ці не надта я перагружаю арганізм? Або наадварот – шкадую сябе? Для таго, каб правільна адказаць на гэтыя пытанні, спецыялісты рэкамендуюць спяваць ці размаўляць.

– Калі вы выйшлі на трэніроўку з сябрамі – размаўляйце з імі падчас практыкаванняў, – рэкамендуе спадарыня Наталля. – Калі ў адзіночку – напявайце. Атрымліваецца гаварыць і спяваць, голас не збіваецца – значыць, арганізм спраўляецца. Калі вымавіць нешта цяжка – трэба знізіць нагрузку, арганізм адчувае стрэс.

### Калі канькі і лыжы – не ваша, асвойвайце юкігасэн

Найбольш стандартны зімовы спорт – гэта, вядома, лыжы і канькі. Калі нехта не засвоіў іх у дзяцінстве, то ў сталым узросце зрабіць гэта часам бывае нялёгка. Тут не лішнім будзе ўменне правільна… падаць.

– Як я кажу сваім вучням: калі адчуваеце, што пачынаеце падаць – прымайце позу эмбрыёна, – усміхаецца настаўніца. – Не падайце на адну кропку, зрабіце так, каб кропак апоры было некалькі – тады сіла ўдару будзе слабейшая і не такая адчувальная. Калі завальваецеся назад – згрупіруйцеся, пасля падзення перакаціцеся на бок, абапрыцеся на руку.

Калі станавіцца на лыжы і канькі ўсё ж няма ахвоты, можна пераняць японскі нацыянальны від спорту – юкігасэн.

– Для гэтага трэба падзяліцца на дзве ці болей камандаў, кожная з якіх мае сваю снежную сцяну і сцяг, – тлумачыць спадарыня Наталля. – Для таго, каб перамагчы, трэба выбіць саперніка снежкамі і захапіць яго сцяг. У Японіі праводзяцца чэмпіянаты па гэтым відзе спорту.

А калі вы хочаце выцягнуць на вуліцу дзяцей, то і тут спецыяліст падкажа, як не сумаваць у заснежаным двары.

– Акрамя стандартных санак і крэпасцяў, можна рабіць узоры на снезе, трапляючы ў след адно аднаго, – дзеліцца досведам спадарыня Наталля. – Можна развесці ў бутэльках харчовыя фарбавальнікі і размалёўваць снежныя скульптуры. Пры моцным марозе цікава пускаць звычайныя бурбалкі – яны будуць адразу замярзаць і пераліватца на сонцы. Можна хаваць і шукаць скарб у снезе па слядах, рабіць кармушкі і ядомыя пацеркі для птушак – галоўнае тут, проста захацець!

Нават перапынак на працы можна выкарыстаць не для перакуру, а для таго, каб умацаваць сваё здароўе.

– Пачніце проста кідаць снежкі – хто далей, хто больш дакладна, – кажа Наталля Дараховіч. – Магчыма, тады і вашы калегі кінуць цыгарэты і пачнуць перакідваць вас у снежкі.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

## Што рабіць пры лёгкім абмаражэнні

Абмаражэнні адкрытых участкаў цела – шчок ці рук – частая з'ява ўзімку. Таму пры занятках спортам на свежым паветры будзьце пільныя да сябе і сяброў. Калі бачыце, што шчокі сталі белымі, – спыняйце трэніроўку.

Першая дапамога пры абмаражэнні першай ступені – расціранне пацярпелых частак цела спіртам або гарэлкай. Месца абмаражэння трэба расцерці, пакуль яно не стане чырвоным. Пасля можна апускаць яго пад цёплую ваду, працягваючы рабіць лёгкі масаж.

Нялішнім будзе выпіць гарачай кавы ці гарбаты і пасядзець нейкі час пад цёплай коўдрай.

Калі абмаражэнне больш сур'ёзнае ці ахапіла вялікія ўчасткі цела, то без дапамогі дактароў не абысціся.






## Салата з печані траскі з кукурузай

Рыхтуемся да святаў і робім новыя салаты. Яны лёгкія ў прыгатаванні і выдатныя на смак. Гэта цудоўны варыянт для вячэры, абеду ці да святочнага стала.

*1 бляшанка печані траскі, 100 г кансерваванай кукурузы, 4 пярынкі зялёнай цыбулі, 3 вараныя яйкі, 1 свежы агурок, маянэз – на смак.*

Печань траскі перакладзіце ў міску, разамніце відэльцам, дадайце кукурузу, надзёртыю на буйную тарку яйкі, агурок, нарэзаны кубікамі, і дробна парэзаную цыбулю. Усё запраўце маянэзам і добра перамяшайце.

## Салата з языком і агурком

*Палова пучка лістоў салаты, 1 салёны агурок, 150 г адваранага языка, 1 кісла-салодкі яблык, 2 яйкі, зялёная цыбуля, кунжут.*

Для запраўкі: 3 ст. лыжкі натуральнага ёгурту, некалькі кропель лімоннага соку, палова чайнай лыжкі соевага соусу.

Салату нарэжце і пакладзіце ў міску. На яе – агурок, нарэзаны саломкай. Зверху пакладзіце язык, таксама нарэзаны саломкай. Наступны слой – яйкі, а пасля і яблык, надзёртыя на буйной тарцы.

Усё заліце запраўкай і перамяшайце. Выкладзіце ў салатніцу, пасыпце дробна нарэзанай зялёнай цыбулькай і кунжутнымі семачкамі.

Смачна есці.

**Проста МАРЫЯ.**



### Адказы на крыжаванку з №51.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. КРЭВА. 3. КАПУЦЫН. 4. ПОМПА. 9. ПАГАНСТВА. 10. ЦУКАРНІЦА. 11. ЭКСЛІБРЫС. 12. КАРЛ. 15. БАРАДА. 16. ГАНДЛЯР. 18. РАЗМІНКА. 21. АНТРОПНЫ. 25. ДАВІД. 26. МУКА. 27. СШЫТАК.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. МЕДАВУХА. 5. ВЯЗЫНКА. 6. МАЦІ. 7. ЧЫГУНКА. 8. КУЛЬБІТ. 11. ЭТРУСКІ. 13. ВЭЛЮМ. 14. ГАРМАЗА. 16. ГАЛАВА. 17. КАНЕЦКІ. 19. БОБР. 20. РОЛІКІ. 22. РУНДУК. 23. КРУГ. 24. АМОНІМЫ. 25. ДРАКОНЫ. 28. ГУЗІК.

### ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 3 | | 2 | | 4 | |
| | | 4 | | 6 | | | 7 | |
| | | | 1 | 5 | | 8 | | |
| 9 | 3 | | | 2 | | | | 7 |
| | 4 | | | | | | 1 | |
| 5 | | | | 1 | | | 2 | 8 |
| | | 5 | | 4 | 6 | | | |
| | 9 | | | 3 | | 2 | | |
| | 1 | | 9 | | 5 | | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. Карысная для здароўя чырвоная ягада, якая стала крыніцай натхнення для Васіля Шукшына.
6. Спецыяліст па лятальных апаратах.
8. Танец у хуткім тэмпе пад ажыўленую музыку.
9. Населены пункт Маладзечанскага раёна, дзе Максім Багдановіч напісаў цыклы вершаў “Старая Беларусь” і “Места”.
10. Беларуская поп-зорка, якую немагчыма ўявіць без галівудскай усмешкі.
14. Любімы мнагагранік Старажытнага Егіпта.
15. Гэты прадукт магчымы дзякуючы вадародным сувязям вады. У газавым варыянце разглядаецца як патэнцыйная крыніца паліва.
16. Адценне шэрага, колер цёмнай марской хвалі. Гэтага колеру была форма савецкай міліцыі, а таксама шынялі ваенных маракоў.
17. Знакаміты вілейскі завод, які займаўся выпускам фотаапаратаў.
19. Выпадкова адкрыты Аляксандрам Флемінгам першы антыбіётык. Значэнне адкрыцця парыжскія газеты ў 1945 годзе ацанілі так: “Для разгрому фашызму ён зрабіў больш, чым цэлыя дэвізіі”.
20. З’явіліся ў Маладзечне пасля дажынак.
25. Любімая ежа персанажа трылогіі Якуба Коласа “На ростанях”.
26. Паводле “Аповесці мінулых гадоў”, князь і дружына кляліся Перуном, а ўсе іншыя ім.
27. Населены пункт у рэгіёне, дзе ёсць аранжарэя і камень у памяць Тадэвуша Касцюшкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Суб’ектыўны індыкатар шчасця.
2. Адзінка вымярэння часу.
3. Японская карпарацыя, адзін з найбуйнейшых у свеце прамысловых канцэрнаў. Адзін з тавараў – аднайменныя матацыклы.
5. У гэтага млекакормячага малако бывае ружовага колеру.
7. Паэма Янкі Купалы, якая грунтуецца на варыяцыях народнай песні, якая была вядомая на Гарадзеншчыне, Случчыне і Ашмяншчыне.
11. Антычасціца электрона.
12. Прататып караля звонкаў.
13. Самая дарагая спецыя ў свеце.
14. Радыеактыўны элемент, адкрыты Марыяй Складоўскай-Кюры. Таму і названы ў гонар яе радзімы.
18. Скрыня для нябожчыка.
19. Жыллё старажытных людзей. Бываюць тэктанічныя, эразійныя, лядовыя, вулканічныя і карставыя.
21. Мікрараён у Маладзечне, дзе ў міжваенны час месціўся польскі ваенны гарадок і стаяла Трыумфальная арка.
22. У егіпцян праваднік памерлых у замагільны свет з целам чалавека і галавой шакала.
23. Месца жылля большасці беларусаў.
24. Размяшчэнне ўбаку, на адлегласці ад іншых.



### ● ГАРАСКОП 23-29 СНЕЖНЯ

**Авен.** У вас з’явіцца здольнасць уплываць на людзей. Яе можна выкарыстоўваць, каб дапамагчы іншым урэгуляваць нейкія канфлікты, накіраваць навакольных на правільны шлях. Толькі дзеля сваёй выгады бойцеся выкарыстоўваць.

**Цялец.** Вы атрымаеце каштоўны навык, пры дапамозе якога зможаце ўплываць на пачуцці людзей і тым самым накіроўваць агульныя намаганні ў патрэбнае рэчышча.

**Блізняты.** У вас вельмі моцна можа разыграцца фантазія, і калі вы своечасова не спыніцеся, то проста адарвецеся ад рэальнасці. Прызямляцца будзе непрыемна.

**Рак.** Час, які добра было правесці ўдалечыні ад дома, каб атрымаць новыя ўражанні, новыя веды і паспытаць эмоцыі, якіх раней не зведвалі.

**Леў.** Матэрыяльны стан, а таксама ўсе пытанні дасягаюць сваёй раўнавагі, шмат якія справы падыходзяць да завяршэння, таму можна расслабіцца і дазволіць сабе адпачнуць

**Дзева.** Вам будзе спадарожнічаць поспех, але варта памятаць, што разлічваць можна толькі на сябе.

**Шалі.** Эмоцыі будуць бушаваць, і калі вы іх не возьмеце пад свой кантроль, то вывесці вас яны могуць куды заўгодна, у тым ліку і ў не самыя прыемныя месцы.

**Скарпіён.** Гэтыя дні будуць для вас асаблівымі і прадракаюць падзеі, якія змогуць вызначыць ваш рух на ўвесь наступны год.

**Стралец.** Новыя ідэі і памкненні дазволяць вам расшавяліць не толькі сябе, але і ўсіх вакол. Але будзьце асцярожныя, бо не ўсё можна шавяліць, можна нарвацца і на асінае гняздо, якое адкажа вам дружным кусаннем.

**Казярог.** Ваш дом наведае спакой, радасны стан духу і агульнае замілаванне. Дамашні ачаг будзе гарэць ярчэй і грэць цяплей, а абстаноўка ў доме напоўніцца небывалай утульнасцю.

**Вадалей.** Падзеі заклікаюць вас да таго, каб вы праявілі вытрымку і цярпенне, па магчымасці не прымалі лішніх крокаў і якіх-небудзь неабдуманых рашэнняў.

**Рыбы.** Не выключаныя перамены ў асабістым жыцці. Вы можаце адрадзіць старыя адносіны, выправіць памылкі. Трэба, каб у вас хапіла сіл і вытрымкі, бо лёгка сарвацца, заблытацца і пачаць рабіць неразумныя крокі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 24 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / +1 | | +1 / -1 | | -1 / +1 | | 0 / +3 | |
| | 748 | → 3 | 745 | → 7 | 739 | → 4 | 740 | ↙ 4 |
| Вільня | -2 / +2 | | +1 / 0 | | -1 / +2 | | +1 / +7 | |
| | 757 | → 5 | 752 | ↗ 8 | 746 | ↗ 5 | 743 | → 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.32
Захад 16.52
Даўжыня дня 7.20

Усход 4.10
Захад 14.36
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -18,8 °С у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +9,4 °С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11 мм у 1980 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У Львове ёсць кавярня, дзе наведнікаў без папярэджання б'юць бізуном. Тут здабываюць каву пад зямлёй і прымушаюць спяваць украінскія песні. Пра цікавінкі і асаблівасці гэтага горада чытайце ў наступным нумары газеты.**



● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Фота забяспечанае Інай ПУДАКЕВІЧ.

Пяшчотны пацалунак дзетак з Маладзечна.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

Тата і сын упрыгожваюць ялінку. Сын пытаецца:
– Тата, а ты чаму цукеркі так высока на ялінку вешаеш?
– Гэта каб ты да Новага года іх усе не з еў!
– Дык мне што цяпер, да Новага года толькі дожджыкам падсілкоўвацца?

***

Турыст пытаецца ў чабана:
– Бацька, вось адкажы, а колькі твае авечкі даюць за сезон воўны?
– Белыя ці чорныя? – пытаецца чабан.
– Ну, чорныя.
– Чорныя – два кілаграмы.
– А белыя?
– І белыя – два кілаграмы.
– А адкажы, бацька, калі ласка, колькі ім трэба ежы на дзень?
– Чорным ці белым? – удакладняе чабан.
– Ну, чорным.
– Чорным – адзін кілаграм.
– А белым?
– І белым адзін.
Турыст у шаленстве:
– Ты што мяне раздражняеш? Чаму ўвесь час пытаешся чорныя ці белыя, калі вынік адзін і той жа?!!
– Ну-у, дык чорныя ж мае… – адказвае чабан.
Турыст разумеючы:
– А-а-а… А белыя?
– І белыя мае…

***

– Сын, я прынесла табе фотакартку. Гэта твой сапраўдны бацька…
– О, божа! Я сын фотакарткі?..

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## З чаго варта пачынаць рыхтавацца да Новага года?



**Віталь Ермакоў, навучэнец:**
– Пачынаць трэба з пошуку святочнага настрою сярод нябыту і шэрасці.



**Надзея Аўдзей, навуковы супрацоўнік музея:**
– Проста з настрою. Пачынаць з глабальных ідэй складана. Прыбраць свой дом, паставіць ёлку. Выбраць падарункі для родных і сяброў. А самае галоўнае, каб зіму на мытні не затрымалі.



**Марына Асманава, доктар, у дэкрэтным адпачынку:**
– Калі ёсць дзіця, то рыхтавацца куды цікавей. Трэба рабіць усё, каб свята ўвайшло ў душу, у галаву, у сэрца.



**Клаўдзія Дубовік, пісьменніца:**
– Да Новага года трэба рыхтавацца так, як да сустрэчы з новым цікавым чалавекам.



**Ларыса Пяшко, бухгалтар:**
– Аддаць даўгі, памірыцца з тымі, з кім пасварыліся. Каб у новы год увайсці з прыемнымі эмоцыямі.



**Алена Мацюшонак, настаўніца:**
– Трэба настроіцца. Калі ў школе на калідорах і вокнах з'яўляюцца ўпрыгожванні, тады і з'яўляецца настрой. Потым пачынаць рыхтаваць падарункі. Неабавязкова дарагія, галоўнае – з душой.



**Андрэй Рогач, менеджар:**
– Дачка з жонкай ужо даўно рыхтуюцца, навыразалі цэлую гару сняжынак з паперы.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1130) 23.12.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1248. Падпісана ў друк у 9.00 22.12.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.